Васіль
Макарэвіч

# *ВІДУШЧЫ ПОСАХ*

**Вершы, паэма**



**МІНСК**
**«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**
**1987**

## *РУПНАСЦЬ*

Патрэбай скаваны лямеш,
Развяжлівы і трывалы,
Колькі вякоў ля меж
Сунешся ты памалу?

Хіба адну вясну,
Як поле туман атульваў,
Крутым плечуком баразну
Куляў набок, перакульваў!

Злятталі з тронаў цары,
Дынастыі цэлыя ляснулі,
А ты і да гэтай пары
Не страціў годнасці ўласнае.

У век наш,
у нашыя дні
Пры светлай
добрай нагодзе
У золкай зямной глыбіні
Выплыў з былых стагоддзяў.

Штодзень,
штоміг —
навізна!
А за табой усё ж тая
Сцелецца ўслед баразна,
Глыбокая
ды крутая.

Ідзе пад гару
і з гары,
Узгоркам пясчаным,
то нізам,
На ёй, нібы на шнуры,
Гады і вякі нанізаны.

Перачакаўшы зіму,
Сцямнелы,
як пер'е ворана,
Не толькі адну ты зямлю,
Гады і вякі пераворваў.

Загонам,
без краю і меж,
Яшчэ не з'араны,
не ступлены,
Смела свой след павядзеш
Глыбока
і ў век наступны.

І рупнасць,
прыўзняўшы брыво,
Як вабная маладзіца,
Вякамі
ў тваё крыло,
Нібыта ў люстэрка
глядзіцца.

## *ПАРТРЭТ ХЛЕБА*

Ні хан,
ні ўдзельны князь,
А хлеб адзін, па праву,
Акрасай быў з акрас
І ўсёй зямлёю правіў.

Ў стагоддзі зазірні,
Бы ў чыстую крыніцу,
Карэнне ў глыбіні
Яго там караніцца.

Каб град жытоў
не тоўк,
Ён акрываўся світкай,
Што ў дваццаць шэсць нітоў
Світальны золак выткаў.

У полі не драмаў
І, схопленую ўранку,
Як скіпетр, трымаў
У дзве рукі
маланку.

На жытні плёс ці раз
Пярун
у навальніцу,
Нібыта на абраз,
Жагнаўся бліскавіцай.

А на таку,
б'ючы
Па каласах без жалю,
Дзябёлыя бічы
І самаго жагналі.

Хлусні не патураў,
Хадзіў шляхамі пеша.
І ў Першага Пятра
Памочнік быў найпершы.

У немаце задух,
Прачнуўшыся аднойчы,
Не моўк бунтоўны дух
У ім
    ні ўдзень, ні ноччу.

Чым Царскае Сяло
І золата мундзіраў,
Лепш загрымець было
У руднікі Сібіры.

Ці ехаў з кірмашоў,
Ці прастаў на прыстань,—
Паблізу дзесь прайшоў
Ля дзёрзкіх дзекабрыстаў.

Пад сіверам аблок
З кагортай дружнай, брацкай
Таксама быць жа мог
У снежні на Сенацкай.

Магчыма,
            да раллі
І не вярнуўся б болей,
Праз проламку пятлі
На свет зірнуўшы з болем.

Дармо, што у ціскі
Сухмень і холад бралі,
Ён грукаўся ў вякі,
Ажно гула іх брама.

Будзь бласлаўлёны, дзень,
Што светла
на стагоддзі
Нябёсы ўсіх надзей
Святліста распагодзіў!

Хто гол нібы сакол
І не прывык згінацца,
Хоць ляжаш тройчы ў дол,
Але ідзі змагацца!

А хлеб? Ці ж не з такіх,
Хаця і рос у полі?..
Хадзіў ён у штыкі,
Змагаўся і ў падполлі.

Пяклі, як сто Сахар,
То сцюжа,
то задуха.
Ссыхаўся на сухар,
Але не падаў духам.

Чужыя шынялі
З блішчастымі штыкамі
На шыбельню вялі,
Жыўцом штурхалі ў яму.

А ён, дзіця сахі,
Выходзіў лёгкім ценем
З вады —
амаль сухі,
З агню —
жывы і цэлы.

Характарам круты,
Душой, як промень, светлы,

Прайшоў усе франты
І дзве вайны
сусветных.

Завеям наслання
Не захацеў скарыцца...

Да сённяшняга дня
Удзячны я скарынцы,
Што бежанкай брыла
І сірат згаладалых
З-пад шэрага брыва
Праз слёзы выглядала.

І хто ў дакор кіўне,
Калі скажу знянацку,
Бязбацькавічу мне
Быў хлеб як родны бацька.

Вучыў і ратаваў,
Хоць самаго зачаста
Град люты дратаваў,
Валіў на дол заўчасна.

І ці яго віна,
Што да гаркоты ў горле,
З цямна і да цямна
Ў чарзе ватоўкі цёрла?

Абходзіў стараной,
Не падпускаў і блізка
Прайдох і хітруноў,
Што трызнілі прыпіскай.

Хапаў ён чапялу,
Каб сперазаць адразу,

Як нехта ў пахвалу
Прамовай гучна бразгаў.

Не набіваў цаны,
Не прыставаў асою.
Навуку цаліны
У летні пал засвоіў.

Але не хмурыў броў,
Дзе галадна і гола,
Спяшаўся да сяброў
На Кубу і ў Анголу.

Пабудку ў горн трубіў,
І звонкім запявалам
На ўсіх шыротах быў
«Інтэрнацыянала».

Хлеб —
                    чарадзей і бог,
Але не той,
                              што ў бронзе.
Дзіця усіх эпох
І іх жа абаронца.

Сцяга ў яго адна:
Ідзе ён з чалавекам
З-пад небасхілу дня
Да небасхілу веку.

Ён — для усіх патрэб!
Яму штодня малюся...
Вось хлеба вам
                                        партрэт!
Няпоўны?
                         Дамалюйце!..

## *БАРАВІКІ*

Яны у непралазь лясоў,
Бы ў час блакады,
Падаліся,
Дзе крыкі соў,
Ды лепшы схоў,
Спакой ажно да падаліста.

А чад саляркі
Ці смурод
Не саладзей за дым
Тратылу.
Ён — напярэймы
І — ў абход,
Паўзе з бакоў,
Заходзіць з тылу.

Не зразумець,
Туман ці смог
Грызе кару,
Цярэбіць лісце.
Да людных сцежак і дарог
Баравікі баяцца
Выйсці.

Ды не дрыжаць жа!
І з глушы
На дужай ножцы
Ды ў берэтцы
Чарнагаловік да шашы,
Нібы разведчык,
Дабярэцца.

На галаве паправіць ліст
У верасах густых

І спелых.
Грыбнік заядлы —
Хітры ліс —
Яго на месцы і заспее.

І каб пабачыць
Кожны мог,
Пакуль яшчэ смуга
Імгліцца,
Ён з корнем выверне
На мох
У промнях светлае
Ігліцы.

І панясе праз бор сыры
Пад гвалт сарок
І сокат ценькі,
Дзе сыраежкі,
Як сыры,
І, як паненкі,
Скрозь апенькі.

Пад ногі ляжа
Касагор,
І ён апошні раз,
Мажліва,
З каша глыбокага
На бор
Зірне святліста
І тужліва.

## *РАЗВІТАННЕ*

*Памяці П. М. Машэрава*

Ранак
І сцягоў не тармасіў,
Што крыло падбіта
Апусцілі.
Дзень імжой
Паціху галасіў,
І зямля
Ледзь чутна галасіла.

Хто прыйшоў
Аддаць яму паклон —
На ўвесь боль ягоны
Пасталейце!
Нам усім здавалася,
Што ён
У вянках ляжыць
На пастаменце.

А ляжаў ён
Пасярод зямлі,
Дзе у гэты момант
І мінуту
Партызанскія бары
Гулі,
Апранутыя ў жалобны
Смутак.

І цяжар
Жалобнае труны
Падпіралі велічна
Па праву,
Плечукамі тыя курганы,

Што завём мы
Курганамі Славы.

Па баках,
Як верныя сябры,
З позіркам,
Ад гора невідушчым,
Віцебшчыны стромкія
Бары,
Налібокі з Белавежскай
Пушчай.

З ганаровай вартай
Землякоў,
Над зямнымі ўстаўшы
Берагамі,
Небасхілы
З чатырох бакоў
Дзень і ноч
Спакой аберагалі.

Той у світцы,
Гэты ў шынялі,
Злубянелых ад дажджоў
І шэрых,
Дні-змаганцы
Ля труны ішлі,
Крочылі
За шэрагамі шэраг.

І дубы —
Града каля грады,
Дзе нянавісць выспела
Святая.
Крочылі
Падпольшчыкі-гады,

Сувязныя —
Золкія світанні.

Змоўкла плошча,
Сціхла далячынь.
Цёмная ад гора
І суровая,
Ў галавах становіцца
Хатынь
З Дальваю
На варту ганаровую.

Зараз грымне
У адчаі медзь —
Бомба так грыміць
Парахавая.
Медзь!
Хіба ты можаш зразумець,
Што мы страцілі,
Каго хаваем?!

Чорны быў асфальт,
А пачарнеў
Горш куды
У гора пад падэшваю.
Ў неглыбокім,
Ды цяжкім чаўне
Мы праводзім
З самых лепшых
Лепшага.

Гэткія, як ён,
Працаўнікі
Зыркаю паходняй
Адпалаюць,
А пасля у далеч,

У вякі,
Прама у бяссмерце
Адплываюць.

Шлях ад Дома ўрада
Напрасцяк
Ці ў даўгі да плошчы Перамогі?
А прайшоў ён
Праз увесь прасцяг
Краю партызанскага
Ляснога.

Вечнага агню
Самотны ўзбліск.
Упадзе ён,
То ўзаўецца вышай.
Партызанскай Славы
Абеліск
Развітацца з ім
Насустрач выйшаў.

Смутак,
Сэрца мне і крой і рэж!
Болем ты —
І не малым аплочаны.
Хуткасць набіраючы,
Картэж
Незваротна адплывае
З плошчы.

За спіною —
Стромкі перавал.
За плячамі — ў шэсцьдзесят —
Экватар.
Ці ж гадаў
Пра гэты ён прывал,

Дзе каўтаць гаркоту
Поўнай квартай!..

Прад вачамі і цяпер —
Лясок
І бяздонне з рванымі
Краямі,
Ды рыдлёўкі ўзмах,
З якой пясок,
Зарыпеўшы,
Асыпаўся ў яму.

Не! Не дым кадзільны,
А туман
Прывідна ўзыходзіць
Над суглінкам.
Там, здаецца, юны партызан
У бакі рассоўвае
Ялінкі.

Ахінуўшы павалокай твар
І на кій ядлоўцавы
Апершыся,
Можа, гэта
Сам ён, камісар,
На сябе глядзіць
Аж з сорак першага!

Можа, бачыць
Ён адтуль крыжы,
Свой грудок, дзе залягла
Трывога,
І маўкліва дзівіцца
Цішы
У сузор'і маладога
Глога.

## *БЛАКІТНАЯ ХУСЦІНКА*

Недзе блізка, можа, ля Дукор,
Можа, на Даўгінаўскім гасцінцы,
Ходзіць мой зажураны дакор
У блакітнай выцвілай хусцінцы.

Не пакрыўдзіў я цябе тады,
Жыў і сам з душой нібы акоранай.
Толькі стала ты на ўсе гады
Светлым і задумлівым дакорам.

Чым віну, не знаю, загаіць.
Дзе ён, дзівасілу гойны корань?
А душа, што ные ды баліць,
Не жадае адбалець дакору.

Не прашу ахвярнага — даруй —
У цябе, бярозкі белакорай.
Моўчкі галаву хіну да рук
Ціхага і светлага дакору.



## *КУЛІКОВА ПОЛЕ*

Кулікова поле,
Кулікова!
А ці плачуць ноччу
Кулікі?

Перад ім,
Нібы перад іконай —
Паглядзі —
Укленчылі вякі.

Час
Падзеі з памяці карчуе,
Караніцца ў доле дзівасіл.
Месяц ці зіхоткая кальчуга
На высокі ўсходзіць
Небасхіл.

І плыве між воблачных
Завоін,
Дзе раздолле перуновых ніў.
Поле, адкажы,
Які тут воін,
Падаючы, з рук яго ўраніў?

Стракацяць
Начных цыкад касілкі,
Косяць ціш начную
Неўпрыкмет...
Мо належала яна асілку
Са святлістым імем —
Перасвет?

Паглядзі,
У месячным свячэнні,
Як далёкай даўніны усплёск:
Ратнікаў нямое апалчэнне,
Ці густога травастою
Плёс?

І зара
Ў дрымоце першабытнай
На усходзе, быццам бы намёк,

Што ускраек неба
Ў грознай бітве
Барваю людской
Наскрозь прамок.

З-пад кучомкі
Хмары ускудлачанай
Гляне з стэпу
Кожны раз зырчэй
Жоўты твар
Скуластай азіятчыны
Са стручкамі вузкімі
Вачэй.

Гнеў і мужнасць
Гэту шыр абралі,
Да брыва брывом
Звялі палкі.
Кулікова поле —
Гэта брама,
Напята адкрытая
Ў вякі.

Горкая планіда
У нажывы
Так, як і ў прыблудаў-хіжакоў.
Дзіды з тых часоў,
Не быльняжыны,
Скрозь тырчаць
Ля шэрых бальшакоў.

Мы на ветры,
Што зайшоўся ў крыку,
Ў дол нагой упёршыся
Ямчэй,
Вобзем іга грымнулі,

Як крыгу,
З душ сваіх звалілі
І плячэй.

Родная зямля,—
Хіба ж не праўда? —
Маеш поле славы
Не адно:
Поле Кулікова
Ля Няпрадвы,
Поле славы
Ля Барадзіно.

Клекатала клёкатам
Адвагі
І дымы гайдала, як званы,
Ад Масквы да чаднага
Рэйхстага
Поле самай страшнае
Вайны.

Цяжкія зямлі маёй
Скрыжалі.
А таму не раз і не другі
Набрыдзь на палях
Сярпом зжынала
Вогненнае Курскае дугі.

Поле з полем —
Пабрацімы, цёзкі.
І ляжыць у травах не адно
Каля кожнай высны,
Каля вёскі
Кулікова і Барадзіно.

Я не быў на полі
Грозным ратным,

І не знаю
Пра смяротны міг.
Быў ратаем
І яшчэ аратым
Поля шчырых клопатаў
Людскіх.

Высцілаў барозны
І пасконні.
Не спяшаўся пра ўраджай
Пытаць.
Каля поля роднага
Да скону
Я хацеў бы вечна клапатаць.

Поле каля Дона,
Пад Лукомлем...
І калі мой край
Хіжак кране,
Поле зноўку
Стане Куліковым
Дзеля хіжака,
Як і раней.

## *РОДНЫ ЦЕНЬ*

Лахманы нікчэмныя, атопкі...
Прывідныя крылы жураўлёў...
Сілы не стае зірнуць у топку
Праз нямую пашчу-жарало.

Мне здаецца: ў вогненным
мігценні,
Непрытомна ўпаўшы на драты,
Курчацца, гарацы людскія цені,
Крыкам раздзіраючы раты.

Крэматорый! Страшны крэматорый!
Цётка ў столькі, колькі зараз мне,
З полымнага віру ў раз каторы
Вынырне рукой...
і патане...

А цяпер сланечынай агністай,
Навылёт прабіўшы мрок бяды,
Так глядзіць на землякоў-турыстаў —
Ледзь не сыдзе ў роспачы
з грады.

Затрымціць бадылінаю
тонкай,
Ажно з твару зробіцца цямней,
Не пабачыўшы між іх
у столькі,
Колькі ёй было тады,
мяне...

## *НЯМІГА*

Дзень гарачай мызаю
Дагрыз
Аскалабак лёдавае
Крыгі.

Па прыступках лесвіцы
Уніз
З плошчы я сыходжу
Да Нямігі.

Дрэў ззалелых
Лёгкія кіўкі.
Вецер на асфальце
Верхаводзіць.
Быццам я сыходжу
У вякі,
Пад скляпенне зглухлае
Стагоддзяў.

Там, дзе ветры
Хмарку валакуць,
Чуцен голас выраю
Гартанны.
Як старонкі
«Слова аб палку...»
Памяць даўняе адвек
Гартае.

Дол збівалі капыты
На пыл,
Не было дзе прытуліцца
Ценю.
Люд упокат слалі,
Як снапы,
Душы дзідай веялі
Ад цела.

Дзе гарбелі прывідна
Лаўжы
Даўніны далёкае
Спрадвеку,

Горад напрамую
Пралажыў
Вуліцы шырокую
Прасеку.

Рушылі зжаўцелыя
Дамы,
Сцены прошласці
Крышылі з толкам.
Позірк сквапны
Зіркаў, як нямы:
Ці мільгнуць у друзе
Залатоўкі?

Іх, напэўна,
Годы-ліхвяры,
Што ішлі,
Як па Нямізе хвалі,
Дзе ў муры,
А дзе і пад муры
Са скупечай сквапнаю
Хавалі.

А магчыма,
Ў рукі ўзяўшы лом,
Скарб умуравала
Тое лета,
То за дротам
У вайну жыло
Пад фашысцкай вартаю
У гета.

Дні з гары
З відна і давідна
Да ракі спяшаліся
Ў адлігу:

Можа, тайну
З глеістага дна
Вымые у рэшце рэшт
Няміга?

Хоць трывогу
На ўвесь свет трубі!
Для чаго: спагады,
А ці здзеку
У бетон даўжэзнае
Трубы
Узялі раку
У вусці веку?

Хіба з тых
Няміга валацуг,
Недарэчных,
Хіжых,
Раўнадушных,
Што узяць патрэбна
На ланцуг,
Каб трымаць
У падзямеллі душным.

У штодзённым гневе
На сябе,
Дзе калісьці стог стаяў
Ля стога,
Рэчка крэкча,
Стомлена сапе,
То бубніць,
То у знямозе стогне.

Дзе яно,
Хоць рэчышча ці след?..

Спрыт і сілу адняло
Як быццам.
І са спрыту
Да святла, на свет,
Аніяк не здолее
Прабіцца.

Ёй, рацэ,
Не па рудой жарстве,
Што на дно кладзецца
Слой за слоем,
Паўнаводна плыць,
Як і плыве,
І па сёння
У святлістым «Слове...»

## *АБЕЛІСКІ*

А фронт,
дзе ўплаў,
дзе ўброд,
Б'ючы грамамі ззаўха,
Перш адступаў на ўсход,
Каб хлынуць зноў на захад.

Ад гулу
у камлі
Шчапаўся лес,
няйначай.
Па небе
і зямлі
Наш гнеў дарогу значыў.

Хто скажа: не магу?
А помста — так бывала —
Ад кулі на бягу
Знячэўку застывала.

Глухіх траншэй рубцы,
Хмурыны, як барліны.
Каменныя байцы
Стаяць аж да Берліна.

Прытушаны пагляд,
Гранат знямелых
звязка.
У правай —
аўтамат,
У левай —
шлем ці каска.

Ці помняць, як, жывых,
Гушкалі іх з пашанай
На плошчах крыжавых
І Прага і Варшава?

Адважныя сыны!
Ля іх
па нівах, пушчах
З канца ў канец вайны
Прайшоў бы й невідушчы.

Для ворага свінец —
Жалезная прыпарка!
Дапаў, дайшоў баец
Ажно да Трэптаў-парку.

Ваенны гром заціх,
Сыны бацькамі сталі.

Бацькам жа не сысці
З каменных п'едэсталаў.

Да раніцы чутны
То песня,
то прыпеўка...
У зрэнках —
гром вайны
І —
перунова пекла...

## *СТРУНА*

*М. С.*

На грыфе лопнула струна
Без роспачы, без крыку.
І вось маўчыць, нібы труна,
Маўчыць-нямее скрыпка.

Ўзяла і лопнула, відаць,
Танюткай павучынкай.
Нам у такой струны спяваць
Усім бы павучыцца!

Пытанне ўстане перш-наперш,
Чаму вось так бывае —
Ірвецца тая, што найлепш,
Найгаласней спявае?

Хоць у пявучае струны
Быў тонкі, цэнькі голас,

Ён далятаў да Кастрамы,
Сягаў ажно на полюс.

Такую можна называць
Хоць спеўнаю, хоць пеўчай.
Такая можа заўладаць
Любой душой хлапечай.

Ці ж не шкада тае струны
Астатнім тонкім струнам?!
Хаця яны і пеюны,
А без яе ім трудна.

Яшчэ замоўкнуць не паспеў
Разнасцежаны, звыклы,
І голас іх, і іхні спеў,
Але суладдзе знікла.

Без той струны, якой жадзён,
Нікуды не падзецца.
А можа, недзе паміж дзён
Яна даўно прадзецца.

Напне на грыфе лёс яе,
Што ўсюды паспявае.
І скрыпка зноўку запяе,
Далёка заспявае.



## *ПЯРЭДАДНІ*

Думаем пра твісты,
Пастаралі,
А на бераг гулкі
І круты,
Дзесьці у Фларыдзе
Ці Аўстраліі
Гуртам выкідаюцца
Кіты.

З роспачы
Сусед каля суседа,
У аблок і сонца
На віду,
Сунуцца пагрозна,
Як тарпеды,
Плаўнікамі рэжучы
Ваду.

Людзі і дасюль
Не зразумелі,
І не могуць зразумець ані,
Што іх цягне
Да пясчанай мелі,
Гоніць з апраметнай
Глыбіні.

Табуном маўклівым,
Касякамі,
Хай сабе тайфун
Ці ураган,
Наўскасяк
Яны перасякаюць
З краю ў край
Бяскрайні акіян.

І на бераг,
Дзе курорты пражаць,
Спіны паляць
Аж да чарнаты,—
Водарасці ірвучы,
Як пражу,
Гуртам выкідаюцца
Кіты.

Іх і так,
Мы знаем,
Не загуста.
Што ж тады у горы
Ці бядзе,
Затаіўшы енк,
Да самагубства
Праз марскія далечы
Вядзе?

Можа, у спрэчку
Ўрэзаліся першымі
Са страшыдламі,
Што ў глыбіні
З перунамі д'ябальскімі
«Першынгі»
Ганарыста носяць
Дзень пры дні?

Вадародны жах
Ля іх пасецца,
У аглухлай споўдае
Цішы.
І каго вось гэткае
Суседства
Не абразіць,
Будзе па душы?

Ці ж адны ўсяго падлодкі?
Крэйсеры
Пад маленне —
карканне святош —
Кілямі і кроілі
І крэслілі
Акіяны ўпоперак
І ўдоўж.

Цераз шторм
Караскаюцца, блазны,
Падаюць адзін другому бас.
Зрэзан акіян
Марскімі базамі.
Колькі іх усіх
На свеце, баз!

Можа, у фіёрдах
Ці ля стромаў
Усё-такі адчуць
Кіты змаглі
Набліжэнне страшнай
Катастрофы,
Што уміг спапеліць
Паўзямлі.

І пакуль кудысьці
Мы прастуем,
Пра набытак думаем,
Пра тэст,
Гібеллю ўласнай
Пратэстуюць,
Заяўляюць гнеўны
Свой пратэст.

Грузна йдуць з глыбінь,
Нібыта з траламі,

І на бераг гулкі
І круты,
Дзесьці у Фларыдзе
Ці Аўстраліі
Гуртам выкідаюцца
Кіты.

## *ХМАРКА*

Пад акном, як шкліна, вадаём.
А над ім, трымаючы аберуч,
З выгнутай
ляшчынай-вудаўём
Нахіліўся барадаты бераг.
Як рыбак заядлы,
дзень пры дні
Пасвіць хмарку ён адну і тую,
Што на дне святлістай глыбіні
Ад вясны, напэўна, нерастуе.
Рыбаком не быў я, ды, аднак,
Быццам чорт лазаты падбівае,
Я цікую,— мо яе дзівак
Падсячэ, як рыбалоў
бывалы?
А яна з відна і давідна
Там, дзе кут у выцвілай берэтцы,
Дражніцца, гарэзная, са дна,
А на лёску промня не бярэцца.
Хай бы чохнуў лівень-вадалей,
Хай бы спёка схлынула тупая!
Ды азерца ўсё далей, далей
Ад яго з хмурынкай адступае...



## *БАЛАДА СТРАЧАНАЙ ДУШЫ*

Доктар! Рукі ў адчаі
Ламаю і зноўку прашу,
Трываць ужо сілы не маю,
Вярнуць памажыце душу!
Вачэй не магу я звесці,
Заснуць не магу уначы.
Блукае душа мая дзесьці
Ад самай вайны, лічы.
Роспач
нямой аблачынай
Насунецца,
ў сэрца штурхне.
Колькі ўжо,
як разлучылі
З душою ка́ты мяне?!
Не ад гарматных жэрлаў
Стагнала сяло
і гуло.
Кацілася полымя
й жэрла
Усё, што зжэрці магло.

Здаецца, аж гойдаў хмары
Ягоны драпежны рык.
Патрабаваў у ахвяру
Дзетак маіх семярых.
У рыжай
пякельнай пельцы
На родным бацькоўскім двары
Кружыла іх, як тапельцаў
У вірлавокім віры.
Агонь аж стагнаў пад ветрам,
А дзеткі адчайным рыўком
Хапаліся за паветра
То правай,
то левай рукой.
Пакуль іх ва ўсім саматканым,
Якое ніхто не знасіў,
Полымя не засмактала
На самае дно назусім.
А я ў абгарэлай кашулі
На ўскрайку нямога сяла,
Прыкручаная да шула,
І рук заламіць не магла.
І, нібы у трызненні-трымценні
Ці у вар'яцкім паўсне,
Душа мая лёгкім ценем
Пакінула, доктар, мяне.
Хацела балюча я ўскрыкнуць,
Гукнуць
у каторы раз.
А голас асверам скрыпнуў
І ў горле даўка захрас.
Хацела ад плачу
зайсціся,
Праклясці жыццё і лёс.
Ды горла адчай мне сціснуў,—
Не пракаўтнула я слёз.

Пакуль яшчэ боль не ступіўся
І дзесь у грудзях палымнеў,
Прасіла зямлю расступіцца
І ў бездань забраць мяне.
Бяздзетнай мне
і бяздомнай
На д'ябла жыць на зямлі!
Ды ні агонь,
ні бяздонне
Узяць да сябе не ўзялі...
Колькі гадоў нядрэмных
У пракаветнай глушы
Рыпела я
сухадрэвінай
Без смольнага дрэва —
душы.
Як дровы сырыя,
цьмела,
Глядзела, як праз смугу.
І вось —
ці прайшло зацьменне? —
А больш без душы не магу!
На свеце, дзе столькі Лідзіц,
Хатыняў —
ля здзека здзек —
Павінен жа ненавідзець
І штосьці любіць чалавек.
Вясной ад шаленства акацый
Ад зорнага ў небе каўша,—
Павінна святлом налівацца
І — захлынацца душа!
Хачу усміхацца быліцы
І краскам, што ёсць яны.
Былям і ўсім небыліцам
Сучаснасці
і даўніны.

Да палыновага болю
Прагну адчуць і я
Роспач бясплоднага поля
І смаглы крык ручая.
Хачу я адчуць,
як паспешна
Сэрца чаканіць час.
І зразумець непазбежнасць
Таго, што чакае нас...
Ці хмара
маланкай блісне
І неба пярун скалане,
Чую, што недзе блізка
Блукае душа ля мяне.
Улетку,
калі і просінь
Ад спёкі ледзь не гарыць,
Не каня над логам галосіць,—
Душа мая стогне ўгары.
Вясною
удзень і ўночы
З пагоркаў дарогай крутой
Імчыцца,
бубніць і рагоча
Яна быстраногай вадой.
То на калу
па-сірочы,
Дзе вешаюць посуд сушыць,
Голасам рэзкім сарочым
Апуджана затрашчыць.
То часам
у лапленай світцы,
Куртатай і вечна рудой,
Пад раніцу мне прысніцца
Бежанкаю-сіратой.
Гэтай жаданае стрэчы,

Здаецца, чакала ўвесь век...
Ды крыкне пугач у падстрэшшы
І — зваліцца сон з павек.
І сэрца
тугая спазма
Здушыць гэткай пятлёй,
Што здасца —
не знойдзеш спасу
Ні на зямлі,
ні пад ёй.
А раніца-маладуха
Рыкае і трубіць у рог,
Круціць віры без прадухі,
Рэжа крохкі мурог.
І ўсё: і палын разамлелы,
І сіні паднебнай бруя
Радасць больш разумеюць,
Душой адчуваюць,
чым я...
Што хочаце,
тое рабіце!
Адно і малю і прашу,
Доктар,
вярнуць памажыце,
Вярніце мне, доктар,
душу!



## ГОСЦЯ З ГАВАЙСКІХ АСТРАВОЎ

Гітара —
 зусім не гетэра,
Дармо, што як схлыне зіма,
У парку гарластым і скверы
Да кожнага ліпне сама.

Паводзіць хіба непрыстойна,
Калі на вачах у людзей
Дзяцюк з ёй гарэзна прыстоіць,
Прыгорне яе да грудзей?

Такі ўжо характар і нораў,—
Хай будзе Масква ці Мадрыд,—
Гітара,
 калі не ў гуморы,
Рыдае і плача наўзрыд.

А весела ёй — весяліцца,
Не стане і хвілі маўчаць.
Ледзь толькі крані —
 маладзіцай
Пачне на людзях рагатаць.

Спапеліць пяшчотай і ласкай,
А потым астудзіць травой.
Нядарма паходзіць з гавайскіх
Спякотных яна астравоў.

Усюды яна верхаводзіць.
І будзеш ты рад ці не рад,
Яна, як на прывязі, водзіць
Хлапцоў за сабой і дзяўчат.

Гітара не моўкне манашкай,
Калі ані дзень, ані тры
Наводмаш, як шорсткай мянташкай,
Мянташаць шалёна вятры.

Няхай вар'яцеюць пажары,
Малоцяць і б'юць перуны,
Гітару зусім не спужаюць,
Ані не застрашаць яны.

Заслуга яе немалая,
Бо там, дзе нябачна й арла,
Гітара на штурм Гімалаяў
Не раз альпіністаў вяла.

Нярэдка паблізу бывала
Ля славы яна і турмы.
З гітары зрывалі абвалы
Усё —
        да апошняй струны.

Нікога ў бядзе не пакіне,
Турне падалей яна страх.
Гітара не толькі багіня —
Заложніца розных эстрад!

## *СВЯТА*

Алімпіяда!
Спартыўныя гульні.
Друг,
Азірніся з усімі наўкруг,—

Свята надзей,
Захапленне агульнае!
Апладысменты
У тысячы рук!

Алімпіяда —
Рэкорды наступныя.
Громагалосы знямеў стадыён.
Факел-бягун
Узляцеў па прыступках
І выкрасае над чашай
Агонь.

Вышугнуў ён
Да святла і блакіту:
Рукі — угору! —
Адзіны парыў!
Быццам шаптаў ён
Святую малітву
Ці чарадзейства
Прылюдна тварыў.

А на нябёсах,
Што громам не кратаны,
Ды і на хвалістым
Плёсе сцягоў,—
Пяць паяднаных
Пярсцёнкаў-экватараў —
Пяць разнага́ласных
Мацерыкоў.

Хай нават дождж,
Як з бяздоннай балеі,
Стаў бы значэўку
Цадзіць і дыміць,
Ды нізашто

Алімпійскай эмблемы
З неба і ліўням ніякім
Не змыць.

Толькі не бачна
Пахмурных узгор'яў.
Чыстага неба
Крыштальнае дно
Па-над паўшар'ем планеты
Надвор'е
З Алімпіядай даўно
Заадно.

Хай у дзяржаўнай нары
Капітолія
Локці употай
Кусае хіжак.
Злосці атрутнае
Ён не спатоліў,
І не нагнаў ён
І страху, аднак.

Нават на тых,
Хто ніяк не упрэцца
Супраць гвалтоўніцтва,
Розных пагроз,
Хто, нібы вол,
У адзінай упрэжцы,
Цягне аж стогнучы,
НАТАўскі воз.

Ведайце добра
У хвалёнай Амерыцы,—
Хмурыць Еўропа
Задумлівы лоб,—
Спрытам і сілай

З сябрамі памерацца,
Хіба то здрада,
Ці нейкі падкоп?

Што там за хітрыкі,
Што за манера
Тых вінаваціць,
Хто век без віны?
Гульні спартыўныя —
Хіба манеўры,
Прыгатаванне
Да новай вайны?

Не, паядынкі
На рынгу ці кортах,
Нават і з шабляй
У дужай руцэ,—
То абнаўленне
Спартыўных рэкордаў,
Хоць і з пякучай слязой
На шчацэ.

Хіжасць заезджая,
Дробна не трэнькай
Танны матыўчык
Аб нейкай нудзе!..
Як пілярамы,
Гудуць велатрэкі,
І ад рэгаты
Аж млосна вадзе...

Кіне кап'ё
Непадробнае ўменне
У дзьмухавец маладых
Аблачын.
Лёгка узмые яно

І ў імгненне
Нашу планету
Наўкол абляціць.

Суддзі не ўгледзяць,
Як з-за небасхілу
Вымкне ураз
І — адзіным рыўком
Клюне край поля
З апошняе сілы!
Хіба не новы
Спартыўны рэкорд?!

Гонщчыкі вецер
Ані не пільнуюць,
Наперагонкі
Шашу між палёў
Шынамі ўдоўжкі
Няшчадна пілуюць,
Быццам сасну
Цыркулярвай-пілой.

Лёгкія, спрытныя,
Гэтак, як ластаўкі
Дзесьці над рэчкай
Ці летнім руччом,—
Што яны толькі ні робяць,
Гімнасткі,
З простаю стужкай
Ці абручом!..

Тое, што загадзя
Ў душах пасеяна,
Пленам апчодрыць
На свяце са свят.
Алімпіяда —

Не толькі ў басейнах,
А на падмостках яшчэ і эстрад.

Як і калісьці
Яшчэ пры Гарацыі,
Алімпіяда
Не дружыць з благім!
Алімпіяда —
Мелодыя грацый,
Вабнасці светлай
Багіня з багінь!

Алімпіяда падскоквае
З мячыкам,
Ходзіць з юнацтвам
Паўсюль пад руку,—
Самая блізкая ў свеце
Сваячка
Кожнаму сэрцу
І — мацерыку!

## *ЯНКА КУПАЛА*

Ягонага яшчэ не знала імені,
Смуга хавала песню пад крыло.
А ўжо ў абліччы летапісца Пімена
Ад вобліку Купалы штось было.

У зрэнках літар бліснуўшы іскрынаю,
З тых далячыняў — кожны міг зырчэй —
Глядзела праз кірыліцу Скарынаву
Дапытлівасць Купалавых вачэй.

А слова наша маладое, свойскае
Ішло сагрэцца смела пад страху.
Яно ў бліскотных похвах Каліноўскага
На шабельным гарэла вастраку.

Знаёмае і роднае абрысамі,
Гучала ўсё набатней і мацней.
Ім гаварыў то Рэўка з-пад Барысава,
То неўгамонны Бурачок Мацей.

Яно у травах мылася, купалася,
Апырсканае ранішняй расой.
І да Купалы проста ў ноч купальскую
Прыйшло з густых самлелых верасоў.

Нялёгкія дарогі, вы масціліся
Ад Вязынкі світальнай да Ляўкоў.
І колькі талентаў у ім змясцілася —
Багрымаў — невядомых Паўлюкоў!

Купалы слова не хадзіла ў бежанцах,
Ляцела мужна у варожы тыл,
Каб караю суровай непазбежнасці
Грымець мацней за ярасны тратыл.

І ведай, што пяшчотаю і ласкаю
Такой, як галубінае крыло,
Купалы слова, мудрае, славянскае,
Славянства па-братэрску абняло.



## *СПЯКОТА*

Памяці разнасцеж
Далягляд,
Разгані на небасхіле хмары!..
Можа, як і сорак год назад,
Зноў дыхне спякота,
Бы з Сахары?

Сорак першы!
Як тады пякло,
Як смаліла
І няшчадна секла!
Калі б пекла д'яблава
Й было,
То здалося б раем
Тое пекла.

Ад нясцерпнае гарачыні,
Што й арктычны холад
Не астудзіць,
Аж да дна перасыхалі
Дні,
Гэтак, як і чэрвеньскія
Студні.

Каля рэчак
Смаглі чараты,
Чоўны ажно трэскаліся
Ў глеі.
Ў адступлення й бежанства
Раты
Горш, чым галавешкі,
Абвуглелі.

Полымя —
Хоць вер, а хоць не вер —

З пушчаю ці з вёскай
Пры сустрэчы,
Падпаўзала
І, як люты звер,
Ім улёт кідалася
На плечы.

Церабіла лісце і галлё
З цененькім кублом —
Гняздом птушыным...
Вёрсты духаты
І — вугалёў...
Іх тады і ліўні
Не тушылі.

Скогат тракаў.
Бомбаў немы віск.
Папялішчы —
Латка каля латкі.
Небасхіл і той на дол
Абвіс,
Бы крысо гарэлай
Плашч-палаткі.

Хіба спыніш полымя
Штыком?
Спыніш, калі трэба,
Ў бітве грознай!
А яно ішло
З усіх бакоў,
Равучы, бы ў топцы
Паравознай.

Асыпаўся
Нават з неба жар.
З воблакаў злятаў

Ці са Стажараў?!.
Чым гасіць
Раз'юшаны пажар?
Стрэчным,
Больш разгневаным пажарам!

Выбухнуў ён да нябёс,
Як гром.
Набіраўся моцы
І размаху
Пад Масквой,
Ля Сталінградскіх сцен,
І нарэшце рушыў сам
На захад.

Плавіў ён і камень
І браню.
І ў той дзень,
Які планеце сніўся,
Валам ачышчальнага
Агню
Аж да сцен Берліна
Дакаціўся.

Перамога
Нам зірнула ў твар.
Сілу ўтаймавала
Наша сіла.
І адкуль у свет пайшоў
Пажар,
Там яго навек
І пагасіла.

...Сорак [redacted] гакам
Не чутно гармат
На дарогах крыжавых

Еўропы,
Ды камусь,
Як сорак год назад,
Хочацца піхнуць яе
Ў акопы.

Марацьь, каб Еўропа
Ўсё жыццё,
Дзе людзей,
Нібы на градах бобу,
Ля грудзей люляла
Не дзіцё,
А няйнакш,
Як з перунамі
Бомбу.

А таму і летам
І зімой
З нетутэйшым палам
І гаркотай
У душы людзей
І над зямлёй
Навісае душная
Спякота.

Бо, калі ён шугане,
Пажар,
Дзе тады,
На моры ці па сушы,
Знойдзецца пажарнік-валадар,
Што яго ўтаймуе
І — патушыць?

## *ДЫНАСТЫЯ*

У кожнага —
жыццё сваё і лёс.
А шлях — адзін.
І мы з яго не збочылі.
За годам — год,
за бацькам — сын.
І — вось
Ідзе яна,
дынастыя рабочая.

Дынастыі ушыр і ўглыб
расці,
Не знацца ані з кланамі,
ні з кастаю!
Яна рабочай,
як і ёсць,
касці,
Рабочая і гордая дынастыя.

Заломіць хвацка
набакір берэт,
І ля станка
з удумнасцю няспешнаю
Дынастыя пачатак свой бярэ!
А дзе пачатак
самае найпершае?

У мораку
вільготных руднікоў,
Што выгрызалі дні
кіркой клыкастаю,
Ды ў апраметнай глыбіні вякоў
Пачатак той,
найпершае дынастыі.

Дынастыі
скрозь церабілі
шлях
Цераз прадонні
і пустыні стылыя.
І з Марсельезай грознай
на губах
Ішлі на прыступ
хіжае Бастыліі.

Дынастыі не трэба
чужакоў.
З хлуснёй ваюе
праўдай неадступнаю.
Яна — дачка
працаўнікоў-вякоў,
А мы — да аднаго —
яе наступнікі!

І рэчышча,
якім плыве наш час,
Не возьмецца ні цінаю,
ні раскаю.
А родны бацька хто?
Рабочы клас!
Паходжанне?
Вядома, пралетарскае!

Век пазірае
з-пад жытнёвых броў,
Са скіпетрамі знацца
ён не знаецца.
Сышлі на клін
дынастыі цароў,
Дынастыя рабочых
развінаецца!

# *ПЧАЛА*

Шкло гэтак ззяла, залацела,
Што каля нейкага сяла
У наш аўтобус заляцела
З разгону звонкая пчала.

І, як прынцэса, што з балета,
За ветрам ядраным услед
Яна ляцела безбілетнай,
Як у капейку, ў белы свет.

А ён, што ўдаль шашой прасцёрся,
Так, як умеў і як хацеў,
Шалеў і выў, аб сценкі цёрся,
Сціхаў і зноўку шаргацеў.

Здаецца, шчодры, зухаваты,
У гэты душны медanoс
Ён абяцаў не проста ўзятак,
А дзіва болей, чым з дзівос.

І ёй, прамыслай, адмысловай,
Даволі ўсплёску лёгкіх крыл,—
Бяры яго, амаль дармовы,
І з ім імкні за небасхіл.

Ды гэты, з шкла і ззяння кокан,
Каторы вецер паласкаў,
Дражніўся бляскам светлых вокан
І — нізашто не адпускаў.

А з-за пагоркаў, там, дзе скогат
З начы не моўк, не астываў,
Як з дна глыбокага марскога
Паволі горад уставаў.

І там, у тлуме і задушшы,
Як прагавіты люты цмок,
Здаля амаль што невідушчы,
Хадзіў і сноўдаў чадны смог.

Ішоў няўпэўненай ступою,
Як раніцой туман з ляска.
І піў сасмяглую таполю
Аж да апошняга лістка...

І ці то ў роспачы, ці ў страху,
Як аб лядок, аб ззянне шкла,
Тугімі крыльцамі з размаху
Са звонам білася пчала.

## *БЕЗНАЗОЎНАЕ*

Цыбаты часткол
У баразёнках драпін.
А кол, забіты ў дол,
Куды ўцячы патрапіў?

Ці помніць, як славян,
Калі стагнала сеча,
Сабою засланяў
Ад дзіды і ад меча?

На ратным рубяжы,
Дзе сокат лёду чуўся,
Тэўтонаў ён глушыў,—
Аж гул ішоў па Чудскім.

Хто шляху не пытаў,
Хаця б і Карл ад шведаў,
Удосталь паспытаў
І смак яго адведаў.

Дзе толькі ні бываў!
У сцюжу
без канфузу
Чачотку выбіваў
Ён на спіне французаў.

У справе ведаў толк,
І спадцішка
упарта
Аж да Сцюдзёнкі тоўк
У плечы Банапарта.

Ля баявых шляхоў
Тырчэў, і —
кол адразу
Хапалі Пугачоў,
Балотнікаў і Разін.

Не мог уседзець, чмут,
І добра помняць даты —
Паўстанняў,
розных смут
Быў першы завадатар.

Яго цераз вякі
Перадавалі ў рукі
Сынам сваім —
бацькі,
А тыя ўжо —
унукам.

Адзеты ў армячок,
Як селянін ён браўся.
А назіркам —
дручок:
Сынок у бацьку ўдаўся.

Каля пустых адрын —
Не прапусціць бы стрэчы! —
Чакаў дзябёлы дрын —
Ягоны брат стрыечны.

З чалесніку наўскач,
У бляску ад пламення,
Ляцеў услед таўкач,—
Прысадзісты пляменнік.

І мешалка-дачка —
Заядласці ставала! —
Ад спрытнага дручка
Нідзе не адставала.

І ўнука ён займеў —
Пляцкаты звонкі пранік,—
Дзе трэба, там грымеў,
Як перуновы праўнук.

Скруціўшы цыбукі
З табакі-самасейкі,
Спяшала нацянькі
Вясёлая сямейка.

Кол грозна, як важак,
Сурова зіркаў вокам,
І жах, нібы ганчак,
Бег да дзвярэй і вокан.

Пакуль агню палаць,
Адзін, без памагатых,
Заходзіў у палац
Да спешчаных магнатаў.

І, глянуўшы на крук,
Са строгасцю ў паглядзе
Паказваў, як барсук
Дзяцей уласных
гладзіў.

Не клянчыў: дай-падай,
А браў усё, што можна.
Парою дападаў
Да спін яснавяльможных.

І рукі паціраў
З сваім адданым брацтвам,
Што час і за цара
Як след ужо ім брацца.

І, пэўна, ён пад гром
Чыесьці бомбы грознай
Ускінуў і —
з царом
Карэту грымнуў вобзем!

Ад гневу не ачах,
А здагадаўся,
зведаў:
Ён той, ён той рычаг,
Што сніўся Архімеду!

Шукай жа, ветрагон,
Апору!
І пры гэтым

Да новых дат і дзён
Ён скіраваў планету.

І раскруціў наўзмах
У гэткай ліхаманцы,
Што толькі б на нагах
Самому утрымацца.

Хадзіў так шар зямны,
Так паў-Еўропы трэсла,
Што за мяжу паны
Ляцелі, нібы трэскі.

І сам, як пад мятлу,
Амаль беспerастанку,
Нібы быльнёг-мятлюг,
Ён вымятаў падпанкаў.

Нікольні не зважаў
На сцюжу часу злога.
Чатырнаццаць дзяржаў
Турнуў у іх жа логава.

Апошні стрэл замоўк.
Чужая біта карта!
Граніцу —
на замок!
Гранёны штык —
на варту!

Самому ўсё ж такі!
Перадыхнуць бы крышку.
А ён — на скразнякі
Туды, дзе нафтавышкі.

Дармо, што ледзь трываў,
Нязграбны, над сабою,

Ён паўзямлі трымаў
Рудстойкай у забоі.

То ў сыпкі жвір, то ў лёд
Ён урастаў, а значыць,
Дзе вырасце завод
Ці горад — месца значыў.

Нашто пытаць, аднак,
Ці многа, а ці мала,
Ад рабацяг падзяк
Удзячных перапала.

І колькі славы той
Прынёс ён, мужны й шчыры,
І з тылу і з франтоў
Вялікае Айчыннай.

Ён там бакі не грэў,
А з хатамі ды з тынам
Мо сотні раз гарэў
У Дальвах і Хатынях.

Хаця агонь грозіў
Спаліць яго адразу,
Адлежваўся ў гразі —
Не на курортных гразях.

Па спінах зноў гуляў
Каля Дняпра і Буга
І — так, што аж гула
На сотні вёрст акруга!

Да змораных удоў,
Прапахлы ўвесь карбідам,
Ён выйшаў з тых гадоў
Амаль што інвалідам.

Ваенны пыл атрос
І ноччу вераб'інай
Сярод сяла прарос
Дзябёлаю вярбінай.

Усім вятрам наздзіў,
На кожную галіну
Па птушцы пасадзіў —
Вясёлай, гаманлівай!

Няхай жа для дзяцей,
Што не вышэй за лавы,
І дзень
  і дрэва цень
Сваёю песняй славяць.

А сам — магутны быў! —
У пчолах ды у восах
Зямлю наскрозь прабіў
Зямной трывалай воссю.

Упёрся ў Млечны Шлях
Ды сочыць,
  цёрты, біты,
Каб часам не сышла
Зямля з сваёй арбіты.



* * *

Трава без назвы і без імені —
Нераспазнаны дзівасіл —
Жыве ў тваім карэнні імешна
Маіх не менш, як дзевяць сіл.

Зачараваная ігрышчамі,
Што ладзяць ноччу ведуны,
Маланкай зыркай перахрышчаны
Твае таемнасці і сны.

Ні злою мачыхай, ні дзядзінай
І ні хітрушчаю кумой,
Ты і падорана і дадзена
Мне пушчай —
хроснаю маёй.

Табе павек я абавязаны!
Адно у той куток глухі
Заказаны мне і завязаны
Усе сцяжыны і шляхі.

Бо можа сцежку злыдзень высачыць,
І там,
дзе часам — кар-р! — чуваць,
Сякерай лес пад корань высеча,
А потым стане карчаваць.

Пакуль вятры за далячынямі
І перуны не грозяць мне,—
Трава без назвы і без імені
У забыцці, у напаўсне.

Калі ж бяда, як мор, нахопіцца
І — так, што жыць альбо не жыць,

Уміг сцябло занепакоіцца,
Ускалыхнецца,
задрыжыць.

Карэнне чуйна узварушыцца,
І пад балотны скрып і ўсхліп,
Яно паволі з месца зрушыцца
І пойдзе, дужае, углыб.

Аж засапе, аж стане горача,
З усіх сваіх апошніх сіл
Адтуль,
з глыбінь падземных, гонячы
Уверх гаючы дзівасіл.

І праз сцябло, што аж згінаецца,
Ён з цёплым пошумам дажджу
Шырокай плынню уліваецца,
Імкне у грудзі і душу.

І зноў за далеччу няблізкаю,
Што небасхілы узялі,
Выразна бачу шкліну-бліскаўку
Аж на другім канцы зямлі.

І, як пры летнім зыркім пошугу,
Сцяга з канца ў канец відна
Ажно да самага апошняга,
Журбой асмужанага дня.

А ў пушчы дзесь, за далячынямі,
Заснеш ты зноў пад пошум крыл,
Трава без назвы і без імені —
Нераспазнаны дзівасіл.

## *КАСЕЦ*

На сцежку ранішні туман
Прысеў, вачамі плюскае:
Траву кладзе ў пракос цыган,
Здзівіўшы парк Чалюскінцаў.

А ці даўно, хітрун і чмут,
Да мужыка падмесціцца,
Папросіць сена ў пугу жмут,
І — сыты конь па месяцу.

Цягнуўся з клячай на кірмаш
Ад табара
з-за ельніку.
Круціў-муціў
і, звадыяш,
Вяртаўся на стаенніку.

Хітрыў, мяняў
і — не шманаў,
Хоць і сям'я не снедала...
На д'ябла мена
і мана
Для цыгана аседлага!

На д'ябла лаплены шацёр,
Драбіна з круглай будаю,
Калі ў яго і дом, і двор...
Пра іншае
не буду я!

Не буду нават пра каня,
Што ў складчыну агораў дзесь,
І без якога ён і дня
Не пражыве і ў горадзе.

Не спіцца,
руціцца яму,
Нібы пчале на пасецы!
Мурожным сенам
на зіму
Патрэбна назапасіцца.

Упрэў з літоўкаю цыган,
Ад сонца плечы тулячы,
Траву густую
і туман
У тугі пракос пластуючы.

## *СМЕРЦЬ ЛЕСАВІКА*

*Светлай памяці*
*Я. Шастаковіча*

### *1*

Сэрца ад болю
Ныла няўсцерп,
Глядзела туга
З-пад брыва насуплена.
Вестка была,
Нібы востры серп,
Той, што бядою самой
Назублены.

Вестка! Яна
Прыкульгала з сяла.
І, ў пінжаку
З праніцаным зрокам,

Сланялася горадам,
Смагла піла
Стрыкучую, як крапіва,
Газіроўку.

Каля вітрын
Запавольвала крок,
Смагай душылася зноў
Палыноваю.
У гарадской мітусні
Назнарок,
Каб перастрэць,
Мяне падпільноўвала.

Паветра кіпела
Паўсюль, як вар.
Абцасы асфальтам
Нервова чэкалі.
І дзесь з-за вугла мы
Тварам у твар
Ледзьве не чокнуліся
Знячэўку.

Са шчок,
Нібы хваляй,
Змыла загар,
Калі, як мажары
З крутога абрыву,
Жудасці хіжай
Нязносны цяжар
Перакуліла на плечы,
Абрынула.

Як жарнавік,
Небасхілу круг
Пайшоў круціцца

Злева
        направа.
Хацелася крыкнуць:
— Далёкі друг!
А можа, гэта
Падман, няпраўда?..

Ты родным братам
Быў лесуну,
Што у бары
Хадзіў дрывасекам.
Няўжо табе збілі
Хату-труну
З цяжкімі дзвярамі —
Гарбатым векам.

Блукаў жа днямі
Ля сосен-удоў
У лесе тым,
Што зваўся мачтавым.
Не знаў, не ведаў
З малых гадоў
Ані пяшчоты,
Ні ласкі матчынай.

Нямая трывога,
Замры ў душы!
Надзея, хутчэй
У ёй абудзіся!
А можа, ён
У лясной глушы,
З ружжом блукаючы,
Заблудзіўся?

Ды шэры дзяцел,
Стары зямляк,

Па тэлетайпе
Здалёк адбівае:
Ён ведаў лес,
Як ніхто, дзівак,
А хіба з такімі
Бяда бывае?!

Хаця і білі
Падчас перуны,
Мераў гады
Уперак і ўдоўжкі.
І жартаваў:
— З жалезнай сасны,
Калі памру,
Адгаблюйце дошкі!..

Якая ж сякера,
Якая ж піла,
Дрэва, што выйшла
З блакаднага пекла,
Зубамі вострымі
Падцяла,
Лязом пад корань
Наўзмах падсекла?..

*2*

Хіба такое вось рэдка было,
Толькі мінута настане адхлання,
Едзеш дамоў у адведкі ў сяло,
А прыязджаеш на пахаванне.

Я разумею і боль людскі,
І утрапенне, і хваляванне.
З вёскі спяшаеш у шум гарадскі,
А прыязджаеш на пахаванне.

Газету за шэрае зловіш крыло,—
Чым яна ўсцешыць? Одай пахвальнаю?
Крыгаю скрыгне там некралог,—
Значыць, яшчэ адно пахаванне.

Сорак гадоў ні гармат, ні вайны.
Мірныя будні і парыванні.
Ды не прывыкнуць да вузкай труны
І да жалобнага пахавання.

Дрэва магутнае
                    моцай камля,
Чуйнае кроны здаровым дыханнем.
Чуеш, крычыць на ўвесь свет немаўля
Там, дзе учора было пахаванне.

Жорны стагоддзяў, нібыта жарству,
Хітрыкі трушчаць і нараканні.
Так, як між полюсамі, і жыву
Між нараджэннем і пахаваннем.

Хай там спякота, роспачы жах,
Зыркай каметы агонь-палыханне,
Толькі б адно не наладзіў хіжак
Нашай планеты усёй пахаванне.

*3*

Здаецца, я
У літаргічным сне.
Што са мной сталася,
Што са мной робіцца?
У кожнай яліне,
У кожнай сасне
Воблік знаёмы
Мільгае, мроіцца.

Дзялянка змоўкла.
Сушняк-галлё
У цішы нямой
Пад пятой патрэсквае.
Жывіцы даўняй
Мігціць святло,
Падсочка тут —
Старажытнымі фрэскамі.

Смалы й задухі
Паўдзённы ўзвар.
Сцелецца долу
Капуста зайцава.
І з кожнае фрэскі
Знаёмы твар,
Як праз туман,
З глыбіні праразаецца.

Здаецца, хтосьці
На дрэвах усіх
Развесіў люстры
Рукой уладнаю.
І воблік знаёмы
На нейкі міг
З кожнага з іх,
Як з акна, выглядвае.

А з прыдарожжа
Дуб-фараон
Глядзіць звысоку
Ва ўсім дасведчаны.
Падсочкі ссохлай
Стаяк-плафон
Аблічча сябра
Углыб высвечвае.

Пад тлумную сварку
Дурных сарок,
Што недзе блізка
Кіпіць не выкіпіць,
За ім цікуе
Мой пільны зрок,
Каб з-за смугі,
Як жывога, выхапіць.

Наблізіцца ён —
Дацягнуся рукой!
І раптам знікне,
Смугой заслоніцца.
Вятрыска з долу
Рване рыўком,
Памчыцца ўслед
Страхавітай слонцы.

Тугу ад сябе,
Нібы грэх, туры!
Спакусаў бойся
Белай бярэзіны!
Падсочкі срэбныя
Алтары
Ў камель сасны
Глыбока ўрэзаны.

Маўкліва, жудка
Маўчаць камлі.
Дзесь адгукнецца глуха
Цяцера.
Здасца падсочка
Ў срэбры смалы
Брамаю той,
Што вядзе у церам.

Хітнецца дрэва
Зіхоткі ствол.
Вось-вось у цішу
Бязладдзя крохкага
Ён з брамы выйдзе,
Ступіць на дол,
І рушыць насустрач
Вясёлымі крокамі.

А мне не страшна
Ў бары зусім.
І я не шапчу
Малітоўна: — Божачка!
Ў вачах ягоных
Туга і сінь,
І не падобны ён
Да нябожчыка.

На міг замрэ
Чарадзейны бор.
Здаецца, дзесьці
За елкай-стогам
Ў смаловай цішы
Знямелы боль
Ў зямлі карэннем
Працяжна стогне.

Дзялянкі. Сцежкі.
Смала і пні.
Латкі. Кварталы.
Будлес. Візіры.
Адсюль улетку
І ўзімку
дні
На рум бярвенне
Калісь вазілі.

Хай лес не знае
Бяды-жуды,
Ў камлі таўшчэзным,
Амаль па сажаню.
Хай постаць друга
Жыве заўжды
У дрэве кожным,
Што ім пасаджана!

## *СУБОТНІК*

Ён і канструктар і бортнік.
Вядзе карабель і цягнік
Ленінскі наш суботнік —
Шчырун,
Клапатун,
Працаўнік.

Ён плечы з такою сілай
На ўсе развінуў вякі,
Аж строміствыя небасхілы
Рассунуліся у бакі.

На БАМе удзень і ноччу
Кайлом ударыць між скал —
Ледзь з берагоў, як з ночваў,
Не выплеснецца Байкал.

Ад рэк азіяцкіх без страху
Ў Еўропу праз халады
Высока, пад Млечным Шляхам,
Цягне наўпрост правады.

Калі ж невыкрутна стане,
І так, хоць зайдзіся плачом,
Прыйдзе Ільіч і падставіць
Пад ношу цяжкую плячо.

Хіба ён цураўся цяжару!
У першыя годы, лічы,
Усю маладую дзяржаву
Трымаў на ўласным плячы.

Цярэбячы ўдалеч дарогу,
У клопаце тлумных спраў
Не толькі дзяржаву —
эпоху
Трывалым плячом падпіраў.

Суботнік — вадзіцель трамвая,
Сейбіт і сталявар.
З намі Ільіч трымае
Стагоддзяў наступных цяжар.

Не трэба ні славы, ні ордэнаў,
Ані лаўровых вянкоў.
Суботнік! Ён жа з кагорты
Ленінцаў-бальшавікоў!

## *АГОНЬ*

На пальцы палкай продак цёр
Амаль з паглядам невідушчым,
Каб распаліць хутчэй касцёр
Ды абагрэць сябе і пушчу.

І, дзіва, можа, з даўніх дзіў,
Загадкай вечнаю застанься!
Агонь наш продак разбудзіў.
А як аддзячыў?
Кім ён стаўся?

Касцёр шугаў, і кожны раз
Сярод прыцемненых выжарын
Ён уставаў, нібыта князь,
Ці ў шапцы поркавай баярын.

З дзялянкі той, на скразняку,
Дзе дол
агонь зацята выеў,
Лёс, як дзіцёнка, за руку
Яго на шлях стагоддзя вывеў.

І там, дзе град,
і там, дзе грэх,
Каб і хацеў —
не запыніцца! —
Да нашых дзён дапаў,
дабег
Ён напрасцяк,
нібы па ніцы.

Ішоў да сёл,
спяшаў да ніў,
У падзямелле поўз, у норы.
Да непадобнасці змяніў
Не раз характар свой
і нораў.

Каб спапяліць усё да тла,
Лез на-звярынаму
да змогі,

Да чалавечага жытла,
На нашы нівы і парогі.

Каб больш не ведалі жуды,
І каб не моўкнуў спеў птушыны,
У сорак пятым назаўжды
Яго, здаецца, патушылі.

А свет вядзе і сёння торг,
Але не бачна прасвятлення.
Бо зло і хцівасць — гэта торф
Той, дзе агонь употай тлее.

Агонь бязлітаснай вайны
У цёмна-рыжым балахоне,
Ён б'е пажарам з даўніны
І з дня нядаўняга благога.

А хтось удзячны барышу,
Пад гром ракетнай батарэі,
Сваю лядашчую душу
Каля агню прылюдна грэе.

Характар маючы круты,
Хіснуўшы контуры крывыя,
Нашто, агонь, даешся ты
У рукі хцівыя і злыя?..

Няўжо ты стогнеш ад пакут,
Шугаеш сыта і раскошна,
Каб нейкім днём на страшны суд
Пазваць усіх, на суд апошні?

Агонь відушчы і сляпы,
Няўжо — пытаюся у гневе! —
Зямлю вякамі ты ляпіў,
Каб спапяліць яе імгненна?..

## *ХВАЛЯ*

На высокай,
Як сцяна, вадзе,
Заглушыўшы ў порце
Гул і скогат,
Хваля ўгрунь
Да берага ідзе,
Ледзьве дна
Дастаючы марскога.

Дападзе яна
Рыўком адным,
І, нібыта ў просьбе
Ці маленні,
Перад ім,
Высокім і крутым,
Упадзе як быццам на калені.

І, здаецца, просіць,
Каб віну,
Што насіць ужо не мае сілы,
Дараваў за тых,
Каго ў вайну
І пасля няшчадна патапіла.

Спішыцца на хвілю,
А ў адказ —
Ані слова кволага,
Ні гуку...
Адыходзіць хваля,
Кожны раз
Над сабою заламіўшы рукі.

## *БУЙНІЦКАЕ ПОЛЕ*

У жалезных кастрах
Бітвы Буйніцкі шлях
І палеткаў зялёная воля.
Люты быў, страшны бой,
Парадніў іх з табой,
Барадзінскае слаўнае поле.

*А. Вялюгін*

Буйнічы. Поле аратых.
Хіба яго віна,
Што жытнім было, а ратным
Зрабіла яго вайна?!

На дол уначы аблятала
Зыркіх маланак галлё.
Пякельным агнём і металам.
Жагналі баі Магілёў.

За сто кіламетраў з гакам
Чуў я, хлапчук малы,
Як гром з маланнёю гакаў,
Рыкалі з натугай ствалы.

Сэрца агнём апячэцца,
Толькі ўяві у імжы
Воінаў-апалчэнцаў
На вогненным рубяжы.

Мужнасць нішто не застрашыць!
Падціснулася тужэй
Поле паўкруг патранташам
Акопаў і цесных траншэй.

Старчма кулямётнай стужкай
Цыбаты густы частакол,

Дзе вецер няўцямна гушкаў
Клыкасты дрот часцяком.

Поле дружыла з прыпеўкай
І — слалася, як абрус —
А стала для ворага пеклам
Каля шашы на Бабруйск.

Валун ля дарогі пацвердзіць
І месяц у настаццi,—
Хадзіў па закуранай цвердзі
Сіманаў Канстанцін.

Пры дыме і копаці кнота
Ссыпаліся з гэтай зямлі
Ў далоні яго блакнота
Асколкі і вугалі.

Можа б, ад ран хто і выжыў,
Ды, каб спыніць гайню,
Свядома ніхто не выйшаў
З акопаў і з-пад агню.

Яму ж, як газетчыку-воіну,
Поле, што нема раўло,
Пакінуць не проста дазволена,
Загадана строга было.

Тым гневам, што сілай надзеліць,
Аловак ён свой завастрыў.
Танкаў аж трыццаць дзевяць
Пабачыў на зыркім кастры.

Ягоная памяць вяртала
З явы і нават сноў
Да поля ратных ратаяў
Праз годы зноўку і зноў.

Поле, якое не дзеліць
Геройскае славы ні з кім,
Роўна праз трыццаць дзевяць
Навек парадніласяз ім.

Ўзіраюцца дні і падзеі
З бязлітаснай праматой:
Магія? Ці супадзенне
Лічбы адной і той?

Наведаць ён гэтак прагнуў
Загінуўшых таварышоў,
Што нават бязважкім прахам
Вярнуўся да іх, прыйшоў.

Як быццам ратнае поле,
Што грыз агонь і глыдаў,
З першай сустрэчы ніколі
І ў думках не пакідаў.

Ён знаў: у глыбокіх барознах —
Ці ж для яго ў навіну? —
Гільзай, снарадам грозным
Вывораў лямеш вайну.

На шостым і ён кіламетры,
Наводдаль ад хат і клунь,
Крута вывернуў з нетраў
Глыбу цвярдыні —
валун.

Ды у вяргінях і флоксах
Да гэтага поля і піў
З аўтографам,
што запёкся,
З пашанаю прысланіў.

І стала,
              з жалезным засеўкам,
Сястрой і дачкою яно
Раз'езду ля Дубасекава
І полю над Барадзіно.

Далёка —
              ні мала ні многа —
Бачаць яго праз гады,
Лічы, што паўшара зямнога,
Амаль да Курыльскай грады.



## *СКУРАНКА*

Не бачыў яе прэйскуранта,
Хаця ў маразы ды імжу,
З «маланкамі» я скуранку,
Быццам крылатку, нашу.

Была заступніцай, падчаркай
У века —
              суровы шлях...
Як жа яна мне ў спадчыну
І ад каго перайшла?

Памяць, ты не аслабла!
Згадай жа мінулыя дні!
Імчалася з вострай шабляй
Скуранка на белым кані.

І сярод стэпу голага
Клалася за кулямёт.
Ёй ніпачым быў голад,
Не звёў і кулацкі мёд.

Што там былая слава?
Нібы міраж — здаля...
Анучніку баба злая
Аднойчы яе здала.

Слава —
не смаглая каня,
Ратуйце
не стане крычаць.
Слава ў вяках не кане,
Пра славу не будуць маўчаць.

Славы той кожнае каліва
З гадамі для нас даражэй!..
Скуранку мы адшукалі
І не здалі у музей.

Так, як і ўсе, парашылі,
Адкінуўшы нудны гост,
Яе мы наноў перашылі
На плечы свае і на рост.

«Маланкі», як знакі пажараў,
На грудзях і па баках...
Скуранка ў тайгу спяшала,
Ехала за Байкал.

Грымела яна з падмосткаў
Эстрады у Лужніках,
У клубе — прыпеўкай хлёсткай,
Важкім кайлом —
у гарах!

Дружыць з нейлонам адменна —
Раднёю стаў і нейлон.
Запалу не стала меней,
Мовы не адняло.

Шчыруе і сёння уладна
На полі, у рудніку.
Зірні, як сядзіць яна ладна
На кожным амаль юнаку!

## ОДА ЛАЗНІ

Не апошні і не першы
Пачынаю назнарок
Гаварыць уголас вершам
І пра лазню і палок.
Ды спачатку запытаем.
Бо такі ўжо чалавек:
Што за штука
лазня тая
У касмічны мудры век?
Хіба вечна па-старынцы,
Як калісь яшчэ дзяды,
Будзем мы у лазні мыцца —
І стары, і малады?
Можа, лазня перажытак,

Можа, лазня — нават зло?
І яе, нібы карыта,
Трэба нам пусціць на злом!..
Не, сябры, прызнаем сціпла,
Як вясне без жаўрука,
Нізашто не абысціся
Нам без лазні і палка!
Мудры час наш добра вызнаў,
Ды яно і так відаць —
Як бы новым хто ні трызніў,—
Лазні вечна іспаваць!
Лазня — гэта ачышчэнне
Для святых і не святых.
Лазня — гэта узвышэнне
Для старых і маладых!
А палок дашчаты, коўзкі,
Што праз пару ледзь відаць,
Хто падкажа па-сяброўску,
З чым яго і параўнаць?
Бо скажу я вам нарэшце
(А не згодны вы? Дарма!):
Ганаровага больш месца,
Чым палок, нідзе няма!
І дармо, што ў парыванні
Не кладуць палку паклон,
З ім не йдзе у параўнанне
Каралеўскі нават трон!
Хоць бы ў тым, вядома, сэнсе,
Што за год, а не за век,
На той трон спяшае сесці
Дваццаць, трыццаць чалавек...
З-за яго вайну прынцэсы,
Прынцы розныя вядуць,
І судовыя працэсы
Год і два парой ідуць.
Ды плятуць штодня інтрыгі,

Надрываючы пупы,
Кардыналы і растрыгі
Грахаводнікі-папы.
Калі б толькі мелі сілу,
Нібы тыя камары,
То, здаецца б, абляпілі
Ўсе адразу махляры!..
А было заўжды: на троне
Цараваў — у тым і соль! —
Ў залатой цяжкой кароне
Усяго адзін кароль!
На палку ж,— калі ты смелы,
Не марудзь, хутчэй залазь,—
Добрых хлопцаў тузін цэлы
Можа парыцца зараз!
Глянеш зверху: ад парога
Пара верне, як ралля...
Не, браткі, вышэй намнога
На палку ты за любога
Нават хлюста-караля!
І няма табе патрэбы
З ім раўняцца, быць на «ты».
Сам цяпер на сёмым небе
І ўсё роўна, як святы...
І пашто там папа рымскі
На каленях раніцой
Да нябёс бывае блізка
За малітваю святой,
Ды і гэты ягамосцю,
Што паклоны вечна б'е,
Мог бы шчыра пазайздросціць
Ненабожнаму табе!
Ты ляжыш у душнай пары —
Дзе там неба, дзе зямля? —
Як ляжыць парой на хмары
Найсвяты прарок Ілля.

Хочаш — венікам заўзята
Ты лупцуйся, не зважай!
Хочаш — з богам барадатым
Тут на мове дыпламатаў
Колькі ўлезе размаўляй!
Дамаўляйся з ім адкрыта —
Сам ад смеху памірай! —
Каб без лішняй валакіты
Прапусцілі прама ў рай...
Час даўжэй старайся бавіць,
Ці ж табе ад пары млець?!.
Ды і ў справе і ў забаве
Ёсць пачатак і канец.
Развітаешся з багамі
І, як праўнук перуна,
Ўніз па прыступках збягаеш
Лёгкі, быццам перына.
Да акна прыліпнеш нема:
Птушкі свішчуць у галлі.
Як не хораша на небе —
Яшчэ лепей на зямлі!
Ступіш ты да светлай лусты
Шкла, што свеціцца здалёк,
На сябе таропка ў люстра
Глянеш, быццам незнарок.
І, ружовы,
без прычыны
Ты гатоў аж расцвісці:
На цябе глядзіць хлапчына
Ладны з цела і касці!
Гэта ты альбо не ты —
Гэткі статны, малады?!
Крочыш вуліцаю, горды,
Ля латочніц-прадаўшчыц,
І здаецца: цэлы горад
На цябе цяпер глядзіць!

А дзяўчына кіне вокам —
Іншым разам проста б звяў,—
Нібы ў космасе далёкім,
А не ў лазні пабываў!..

## КРЫЧАЎ

Аб крычах не крычаў
У свет няблізкі
Крычаў.
Аб гэтым мне ручай
З-пад кораня курлыча.

Дзеля няшчадных сеч,
А не для лесасекі,
Тапор кавалі й меч,
Ледзь скончыўшы дасеўкі.

Агонь у печах роў.
А гліны не замала.
Тутэйшых ганчароў
І Візантыя знала.

Нагамі — стук ды грук —
Кружылі, не спяшалі,
Майстры ганчарны круг
З зямным, вядома, шарам.

Глядзі, шчыруе хват,
Знаток і завадатар,—
Цэментны камбінат,
Але не камбінатар.

Дзе колісь плугары
Стругалі дол-скупечу,
Планецяцца ўгары
Апальвальныя печы.

Хто імі правіць? Маг?
І днём і ў час вячэрні,
Зірні, які размах,
Якое ў іх вярчэнне!

Ці дождж, ці йдуць снягі,
З-за іх, як з-за фіранак,
З-пад шыфернай страхі
Глядзіць удалеч ранак.

## *МАТЧЫНЫ РУКІ*

*М. М. Сабіне*

Тут — бяда!
І — нічыёй віны!
Выбегшы з-пад куль,
Нібы спрасонку,
Ураніла пасярод вайны
З рук сваіх жанчына
Немаўлёнка.

А другая,—
Каб паспець хаця! —
З пекла звар'яцелага
Ды з гулу
Выхапіла на бягу

Дзіця,
Да сябе пяшчотна прыгарнула.

Не гадала: хто ён,
Цыганя?
Не чакала ад сяла
Ухвалы.
А калі ўрывалася гайня,
Як магла,
Ад злых вачэй хавала.

А ці знала, шчырая, тады,
Што ёй суджана прайсці
На свеце
Пеклы тры
З задухаю жуды —
Равенсбрук,
Майданак
І Асвенцім.

Хоць сама згіналася
У крук,
Шкрэбла бруд
Ці транты паласкала,
А дзіця і на мінуту
З рук
Анідзе яна
Не выпускала.

Гледзячы, як з печаў
Дым валіў,
Вываргаўся, бы з вулкана,
З гулам,
У бараку цесным,
Бы ў вуллі,
Да сябе яго мацней гарнула.

Скаланаў уночы
Кожны гук,—
Думала у раз ужо каторы:
Па яго ідуць,
Каб вырваць з рук
Ды шпурнуць у пашчу
Крэматорыя.

Гэтак, быццам мову
Адняло,
Па-над ім усю вайну
Нямела.
Можа, што уласных
Не было,
Мець якіх хацела,
А не мела.

І калі прыйшла
Да родных стрэх,
На падворку,
Нібы крыга,
Голым,
З рук упершыню скаціўся,
Збег,
Ледзьве не кульнуўся
Цераз голаў.

А з-за шула, як пярун:
— Сынок!..
Голас вінаваты
І раўнівы
Маці той, што калісь
Незнарок
Сярод пекла
З рук яго ўраніла.

Колькі дзён
І колькі там начэй
У тумане,
Нібы ў чадзе горкім,
З хаты ані зводзячы
Вачэй,
Боль яе вадзіў
Каля падворка.

І не вусны,
А вачэй адчай,
З прыскам ператлелым,
Замест сіні,
На ўвесь свет адно
Маліў, крычаў:
— Родная, аддай,
Вярні мне сына!..

Ад хадзьбы
Абвуглела зямля.
Чорны круг,
Што стаў чарней за гора,
Туга двор абвіў,
Нібы пятля,
Маці дзвюм
Здавіў няшчадна горла.

Не кусала вуснаў
Ад пакут,
І на лёс зусім
Не наракала,
Ноч з малым хадзіла
З кута ў кут,
Каб запомніць назаўжды
Рукамі.

Ранкам
На адчайным рубяжы
На падворак вынесла
Малечу
І шапнула:
— Да яе бяжы! —
Падштурхнула лёгенька
У плечы.

І не бачыла яна
Ў той міг,
Як разгублены увесь
Дазвання,
У адчаі кідаўся
Між іх,—
Маці роднаю
І ёй, названай.

Засланіла свет
Густой імжой.
І да ганка ідучы
Памалу,
Рукі несла так перад сабой,
Быццам бы дзіця
На іх трымала.

І не чула,
Быццам зглухнуў свет,
Як нібыта цераз роў
Ці яму,
Ручаняты цягнучы услед,
Клікаў і гукаў адно ён:
— Мама!..

І па сёння — будзень
Ці куцця —

Ў задуменні ціхім
І ласкавым,
Рукі так нясе,
Нібы дзіця,
Да сябе пяшчотна
Прыціскае.

## *ВЯНЦЫ*

Блізка паўвека
сякеры з рук
Не выпускаю,
бо трэба гакаць.
Годы вянцамі
кладуцца ў зруб.
Налічыш чатыры дзесяткі
з гакам.

Колькі хмурын
пралілося з нябёс,
Колькі грымоты
іх абяцалі!
Зруб узнімаўся,
а ўверх каб падрос
Хаця б на вянец
ці на нейкую цалю.

Збоку зірну я
калі-нікалі, —
Вянцы маіх год,
як і трэба, сталых,

Ідуць, асядаюць
у глыб зямлі,
Як тыя вянцы,
што калодзежам стануць.

Крыніцы ледзь толькі
праб'юць пясок,
І дойдзе падруба
да іх, глыбокіх,
Зраўняецца з долам
апошні вянок,
На справе дастаўшы сабой
аблокі.

## ПАЛАНЯНКІ

Ніколі не тужыў,
Хаця падчас і буркаў.
Сядзеў сабе ды шыў
Шавец для ўнучак буркі.

Схінецца над сукном
І так яго прастрочыць,
Аж моўкнуў за акном
Умомант гвалт сарочы.

А ўнучкі зноў і зноў
З вясёлаю усмешкай
Абступяць з трох бакоў
Шаўца, як сыраежкі.

І радасць кожны раз
Іграе, як на дудцы.

Унучкі ў пяты клас
Увосень пададуцца.

Чыя? Ці іх віна,
Што з гулам урагана
Скрозь грымнула вайна,
Іх у палон пагнала?!

Ад родных арабін,
Што пад акном тужылі,
Сясцёр, нібы рабынь,
Павезлі на чужыну.

Хвасталі бізуны
Па світках паліняльіх.
А буркі! Хто яны?
Таксама — паланянкі!

Хоць з кратамі вагон,
І хвошча вецер-неслух,
Упоўнач пад адхон
Дзяўчынак буркі знеслі.

Ад рэек на прасцяг
Цераз ручай, што булькаў,
Дадому напрасцяк
Сясцёр панеслі буркі.

Спяшаліся на ўсход,
Да родных ніў, да хаты,
А трапілі за дрот
І прама у Дахау.

Перахапіла дых,
Калі ў чарзе на мілю
Вялі да печаў тых,
Што дзень і ноч дымілі.

І кожны бурак чуў,
Як шоргалі да топкі
Каля бахіла чунь,
Бахіл каля атопка.

Ступалі да агню
Знямогла і няўцешна
Ўсяго на даўжыню
Уласнае падэшвы.

І там, дзе роў агонь,
Хістаўся каснікамі,
Усе, да аднаго,
Як прывіды знікалі.

Ці ўспомніць хоць калі
Бязмоўны дзень мінулы,
Як буркі абышлі,
Агонь той абмінулі?

І як там з-за дратоў,
Дзе не было патолі,
Пашчасціла ізноў
Ім вырвацца на волю?

Спяшалі ўскрайкам дзён,
Дзе лесам, дзе па гонях,
А — следам, наўздагон,
Пагоня за пагоняй!

З нямое цемнаты
Іх стрэлам аклікалі.
Калючыя драты
Ірвалі, бы клыкамі.

У хмары хмызнякоў,
Ля нейкага там лога,

Амаль з усіх бакоў
Іх бралі у аблогу.

Дармо, што снег і гразь,
І самі астарэлі,
Выносілі не раз
Сясцёр і з-пад расстрэла.

І нават ад пятлі
Дзябёлай, вераўчанай,
Хоць маразы пяклі,
Аддана выручалі.

З-пад перуноў-грамоў
Не коліпіня буркі —
Вярнуліся дамоў
Старэнькія бабулькі.

Чаго дзівіцца?
Ў дождж
І ў сцюжу-халадзіну
Упоперак і ўдоўж
Вайну ўсю абхадзілі.

І на падэшвах іх,
Што й па агні ступалі,
За штрыхам,
рэзкі штрых,—
Былое праступала.

Як быццам хто наздзіў
Настойліва і ўпарта
Чарцёж наўзмах чарціў
Ці контурную карту.

Тут эліпс азярца,
А тут Сахары прыску.

І — гэтак без канца,
Аж да апошняй рыскі.

І ўсё было відно,
Глядзелася балюча,
Як быццам праз радно
Дратоў густых, калючых.

...Абрысы той зямлі,
Адкуль пайшлі рабункі,
З сабою узялі,
Дамоў прынеслі буркі.

Зірні, заціяўшы дых,
Падэшвы не падэшвы:
Адбілася на іх
Еўропа ўся дарэшты!..

## *СТУДНЯ*

У студню з бетонных кругоў,
Дзе студзіцца лета спакуса,
Зірнуў, як праз прорву гадоў,
Зірнуў і — уміг адхіснуўся.

Пад шэрым старым жураўлём
З-пад ног і зямля падалася.
Мне студня з крутым жаралом
Снараднаю гільзай здалася.

Раўнула вайна нездарма
У нейкім там годзе на гала,

І дымную гільзу старчма
Глыбока ў суглінак загнала.

Не знаю, знарок-незнарок,
А можа, па ўласнай ахвоце,
З вядра каўтануў я глыток,
І — ўміг перасохла ў роце.



## *ІНТЭРНАТ*

З набыткам дармовым,
                    які
Дастаўся з мястэчка
                    ці з вёскі,
Ля форткі вісяць хатулькі,
Пярэсцяцца
          і авоські.

Хай побач будоўля грыміць,
А ты ўсё роўна пачуеш,
Як скварка на кухні вішчыць,
Аб чым транзістар вяшчуе.

Аж валіцца лісце з крон,
Здаецца, выверне шула,—
На цэлы мікрараён
Высоцкага голас бушуе.

Акрытая хмаркай сівой,
Да раніцы у вестыбюлі
Без сну
ачмурэлай савой
Пасвіць дзверы
бабуля.

Хоць бы і неслі пірог
З усмешкаю светлай,
ласкавай,
Дзяўчат яна і на парог
Нават і ў сне
не пускае.

А ў ЦУМе з-пад светлых броў
Дзіцячыя рэчы ды цацкі
Выглядвае ў гурце сяброў
Штодня інтэрнат халасцяцкі.

## *АРАТЫ*

Неба з поўнае сяўні
Наўкруг
Шчодра сыпане
Святлістых зёрнаў.
І баркас урэжацца,
Як плуг,
Глыбака у сіні пласт
Азёрны.

Ацяжэлы, як мядзведзь,
Са сну,

Колькі хопіць
Дужасці і сілы,
Роўную, крутую баразну
Павядзе ажно да небасхілу.

Хай спякота з неба,
Хай і дождж,
Хоць бы раз баркас
Узяў ды схібіў?!
Роўнядзь ён упоперак
І ўдоўж
Кроіць і стругае
Скрозь на скібы.

Гэтак, як ратай
Перад сяўбой,
Разганяючы смугі
Куродым,
Ворыва крутое за сабой
Бараною невада
Скародзіць.

А ці бачыў хто,
Каб ён услед
За кармой,
Што па барты асела,
Непаседа з вечных непасед,
Хоць бы каліўца чаго
Пасеяў.

Ды калоддзем коцячы
Са дна
Хваль няўклюдных
Чараду крутую,
Рагатуха-глыбіня
Адна

На яго амаль
І не крыўдуе.

А таму,
Калі блакіт зіма
Закуе у лёд
Цяжкі і думны,
Табуны яршыстыя сама
На бяздонных выпасах
Гадуе.

Прыйдзе час,
Пад тоўшчаю вады,
На вірах —
Мясцінах запаведных —
Будзе ён кілзаць
У невады
Шчупакоў,
Як жарабкоў стаенных.

Шторм,
Набегам, знай,
Не пагражай!
З цемрадзі глыбіннай,
Як з пячорнай,
Невадам ён шчодры
Ураджай
Валачэ,
Нібыта выкарчоўвае.

Паміж хваль,
Азёрны валадар,
Крэкча і сапе,
Як між узвалляў.
Аж пакуль, злаўчыўшыся,
Цяжар

Ён на плечы дужыя
Не ўзваліць.

Ад такога грэх
І не ўзапрэць!
А пасля, як воз той,
Па грабельцы,
З месца застаялага
Ледзь-ледзь
Ён на хвалю, грузны,
Паграбецца.

Неўпрыкметку
Падштурхнуць вятры,
Вечныя падзёншчыкі
Й суседзі.
І, як дзядзька з коўзкае
Гары,
На карме ён лёгка
З хвалі з'едзе.

Не ідзе,
А ледзь брыдзе баркас,
Памянуўшы вадзяного бога.
Хто? Зіхоткі месяц
Ці бакас
Напрасткі паказвае дарогу?

А з начы,
Хоць змену і здала,
Наўскасяк —
Цераз прастор вятрысты —
Да яго спяшаецца
Здаля
Верная й спагадлівая
Прыстань.



Памылі, адзелі, абулі
У новае ўсё навырост.
І, быццам у госці, бабуля,
Ты едзеш на блізкі пагост.

Ні стогну, ні енку, ні крыку.
Здаецца, і — дзень стараной!
Жалобы счарнелая крыга
Плыве за сасновай труной.

Кігікае каня над логам,
Вяшчуе бяду на ўвесь свет...
Не будзе прамоў, некралогаў
На шэрых сувоях газет.

Ты ногі калола іржышчам,
Студзіла смугой баразён.
Апошняя прыстань — кладзішча —
Мясцовы нямы пантэон.

Дол прыме жаўтлявы, журботны,
У спраты свае захіне...
Не ўсім жа ляжаць пасмяротна
На плошчы альбо ў кургане...

Ад рысы апошняй — парога —
Не ўсіх на лафеце вязуць,
Не ўсім ля жалобнай дарогі
Ваенныя чэсць аддаюць.

І нават вось гэта пашана
Табе ад сяла ўпершыню,—
Нікуды ніхто не спяшае,
Пад рукі вядуць цішыню.

Прыціхла лясное ўзбярэжжа.
Усхліпнуў ручай, перасох...
А колы і крояць і рэжуць
Па самыя ўтулкі пясок.

## *ДОМ УРАДА*

*Фрэска*

Молада вочы цвітуць,
Сэрца абмые радасць,
Калі ветэраны ідуць
Калонай да Дома урада.

Дзеля каго ў навіну,
Хоць не хваліўся ні разу,
З падпольшчыкамі вайну
Прайшоў да канца ён разам.

Яшчэ і дасюль не забыў
Выстралаў хіжы пошчак.
І сам ён у горадзе быў
Самы найпершы
падпольшчык.

Да сённяшніх светлых дзён
З памяці не сціраецца,—
Вучыўся змаганню ён,
Вучыўся і канспірацыі.

Колькі не схлыне год,
Хіба на міг забудзе,

Як чорны фашысцкі бот
Горад таптаў і брудзіў?

З болем пякучым удзень
І ноччу, пры яснай поўні,
На дом ён суседні глядзеў,
Што каты зрабілі катоўняй.

Дармо, што праменны Герб
З франтона збілі і здзёрлі,
Таіліся Молат і Серп
Паблізу пад цэглай і дзёрнам.

І лапіны цьмяны круг,
Для помсты святой усцешана
На колькі ваколіц-акруг
Свяціўся ўсё па-ранейшаму.

Быў светлы німб акурат
На стромкім будынку, увысі,
Падобны на цыферблат
Гадзінніка, што спыніўся.

Калі ўжо было няўсцерп
І сілы ў каго не ставала,
Глыбасты Молат і Серп
З яго напаверх праступалі.

Ледзь пераводзячы дух,
Вязень з-за кратаў катоўні
Глядзеў на світальны круг
З надзеяй нямой, паратоўнай.

І адступаўся боль,
І прыціхалі раны.
І боль ані тузаў больш
Ні вечерам, ні уранні.

Ява ці дзіўны сон?
З грудзей вырываўся выдых:
Нікога з падпольшчыкаў ён
Апі не запляміў, не выдаў.

Дом бачыў: пад вартай штыкоў
Праз лужын
асеннія шыбіны,
Узняўшы голаў, ішоў
Горда і мужна на шыбельню.

З-пад віселыні, басанож,
Кідаў катам пры людзях:
— А перамога усё ж
За намі, ведайце, будзе!..

І Дом, хоць наводдаль быў,
Сцінаючыся, як і кожны,
Ягоны пагляд лавіў,
Магчыма, у раз апошні.

Не мог пад грачыны грай
Ён чуць, як пасля з ускрыкам
Шыбельня з краю ў край
Скрыпела нязносным скрыпам.

Ён ведаў: на ўвесь прасцяг,
Каб катам было толькі дадзена,
Зрабілі б і Млечны Шлях
Для віселыні перакладзінай...

А — трасцу! Каб рэйх учуў,
Набрыдзь са свастыкай чорнай,
Святая помста,
карчуй,
Пад корань яе выкарчоўвай,

Шугаў агністы каснік,
І, ўскінуўшы ўгору на ветры,
Каціўся долу цягнік
Дзесь на лясным кіламетры.

Нібыта пад грэбнямі хваль,
Чужынцаў — хапала абломкаў! —
Кінатэатр хаваў,
Сабой накрывала сталоўка.

Родны брат перуну,
Паставіўшы сцены рубам,
Гнеў спрасаваны шпурнуў
З пярыны лютага Кубэ...

Агонь вырываўся з-пад стрэх,
Рос, нібы дрэва,
з кораня,
І Дом, як галоўны стратэг,
Рашуча глядзеў
і — няскорана.

З пушчай, што холад праймаў,
Дзе вораг вярсты не пройдзе,
Сувязь мацней трымаў,
Чым па прамому провадзе.

Даўно б гвазданулі пад дых,
Абрушылі грудай знямелай.
Ды ворагі ўлік прамых
Супраць яго не мелі.

Калі ж паляцелі далоў
Штандары у зыркім пламенні,
Знішчыць,— загад аддало
Варожае адступленне.

Страх падганяў: хутчэй!
Абвалім, калі не скарылі!
Чуў, як яго да плячэй
Абклалі грымотныя скрыні.

З бліндажнае цёмнай нары,
Цягнучыся да вокан,
Тугімі вужамі шнуры
Ўсяго аплялі навокал.

Стаяў, нібы ў страшным сне,
Плавіў агонь у шыбах.
Здавалася, ледзь дыхне,
І — грымне пякельны выбух.

Ускінецца Дом, нябось,
І цяжка асядзе, рухне,
Узняўшы скрозь да нябёс
Шалёную завіруху...

Хоць і павек не счыняў,
У одум упаў ці забыўся.
Ачнуўся ён, ачуняў,
Як сцяг па-над ім забіўся.

З чырвоных малых касніkoў,
Ад шчасця з слязою салянай,
Яго пры святле светлякоў
Ноччу сшывалі сяляне.

Не ведаў пугач, ні сыч,
Кугакаючы світанкам,
Што сцяг той з-пад Смалявіч
Прымчыць у сталіцу на танку.

Радасці не стрымаць!
Хоць кулямі быў прастрочаны,

Дом Саўнаркома
з трыма
Франтамі абняўся тройчы.

Дзе травы вятрыска прымяў
І сцягі шугалі на дрэўках.
Парад партызанскі прымаў
З таварышам
Панамарэнкам.

...Купаецца ў промнях касых,
Суседнім дамам ён рады,
Ды праўдай высокай
за ўсіх
Вышэй сёння Дом урада!

* * *

О, громе рэактыўны,
Не атрасі расу!
Ля матчынага тыну
Кляпаю я касу.

Каб хтосьці без патрэбы,
Вось гэтак, напавер,
І трос і тузаў неба,—
Рашыў бы: браканьер!..

Дармо, што з пакаяннем
Аж дзынкне шкло акон,—
Няхай за акіянам
Наш будзе гром чуцён!

А што да траў мурожных,
Сабе і ўсім скажу:
Ў лагчыне прыдарожнай
І без расы скашу.

Страшней, калі хто просінь
У нас над галавой
Неспадзявана скосіць
Касою агнявой.

Вучэнне — не пагроза,
Не вырак, не прысуд.
Хістай жа, гром, бярозу
І — атрасай расу!

## *ПЕРАСЦЯРОГА*

Ах, Еўропа, не з-за нейкай
Ласкі
я сказаць гатоў:
Ты падобна на паненку
Пекных высненых гадоў.

Рэўнасць бровы
хмура супіць
І туга душу скрабе.
Я і сам зусім не супраць
Закахацца у цябе.

Ці ж не бачу?
Да гарэзы —
Не рыбак, не плытагон —

Заляцацца гвалтам лезе
Ачмурэлы Пентагон.

Хіжы служка і вярбоўшчык,
Напалову наркаман,
Штосьці плешча пра любошчы
Цераз гулкі акіян.

Як гарэзлівай нявесце
Абяцае —
ці ж сакрэт? —
Падарунак свой паднесці,
Ды — такі,
што здзівіць свет!

І яго у душных трумах,
Як падалей ад вачэй,
Нібы ў цесных доўгіх трунах,
Аж з-за свету валачэ.

Аднаго і прагне толькі,
Як штыкетніку
ў штыкет,
Ўдоўж і ўпоперак наторкаць
Хіжых «першынгаў»,—
ракет.

Мякка ён, Еўропа, сцеле,
Толькі мулка будзе спаць.
Аж паўсвета пад прыцэлам
Хоча ён штоміг трымаць.

Ах, паненка, каралева,
Чым хадзіць каля труны,
Лепш такога кавалера
Ад сябе далей турні!

І дружыць яму б, здаецца,
Толькі з бабаю-ягой,
Што нідзе не расстаецца
Ні з мятлой, ні з качаргой.

Не скарыўся і не здаўся
Свет бядзе яшчэ ў палон.
І табе на д'ябла здаўся
Сват заморскі, Пентагон!

Ахінуўшы зорным сцягам
Ды звадзіўшы у касцёл,
Ён не ў рай, вядома, цягне,
А на ядзерны касцёр.

Ці ж не зведала пажараў
І ваеннае жуды?
Калі будзем мы на пару,
І — бяда
за паўбяды.

А саб'е цябе ён з тропу,—
Страціш веру і спакой.
Ты — заложніца, Еўропа,
У вар'ята пад рукой.

Майстра звады і дыверсій,
Дружыць ён адно з маной.
Ты мне, шчырая,
даверся,
Будзь адкрытаю са мной.

Узнімі здзіўлёна вейкі,
Працягні сваю руку.
Нам з табою жыць да веку
На адным мацерыку!



Эпоха раве і бушуе,—
Высвечвае, рэактыўную,
Агітплакат і брашура —
Літаратура партыйная.

Гісторыю, памяць, абмацай,
І высвецяць з далечы дымнае
Адозвы і пракламацыі —
Літаратура партыйная.

Святлом азарона канкрэтным
Эпохі хада нястрымная,
Ленінскімі дэкрэтамі —
Літаратурай партыйнаю.

Пра хлеба ваенную пайку
І мірныя штурмы былінныя,
І пра Карчагіна Паўку —
Літаратура партыйная.

Хоць бомбай гразілі, напалмам,
Да хіжых не йшла з павіннаю.
Хлусню іх паліла-выпальвала
Літаратура партыйная.

Не ёй сябраваць з прайдохамі.
Ўстае на шляху плацінаю
Ўсялякіх тэорыек дохлых —
Літаратура партыйная.

Ці гнеўна пішу пра Чылі,
Ці пра вайну Айчынную,—
Хачу, каб і верш мой лічылі
Літаратурай партыйнаю!..



## *ЗІМА-1985*

*1*

Прыпёрся з ветрам загадзя
І валіць, як наўзгад,
Каторы дзень на Захадзе
Калматы небапад.

Мароз гуляе з пошчакам,—
З-пад пятак толькі дым!
Машыны, як пябожчыкі,
У гіпсе снегавым.

Нашто, сарока, кепікі?
У грознай пемаце
Снег рыне з гор на кэмпінгі,
Раздушыць і змяце.

Еўропа зноў у паніцы.
Ці ж гэта навіна?
Як чарапаха ў панцыры,—
У лёдзе скрозь яна!

З пагрозамі і лямантам
Бушуюць нездарма
Дэбаты ў парламентах,—
І ім канца няма!

І стогнуць, як над місаю,
Каля сталоў гурмой
Эксперты і камісіі
Па барацьбе з зімой.

Сенсацыя парадуе —
Чакаецца на днях
На ўзроўні недзе ўрадавым
Сустрэча у вярхах.

І на здзіўленне Захаду,
Нібы снягоў абвал —
Рашэнне ды і захады —
Глыбей падаткаў трал!

А ў Канах ці Лазане,
Дзе лёду абразы,
Як чэрці там лазатыя,
Гуляюць маразы.

Каго бяда прыцёрла,
Не гнецца больш у крук,—
Напэўна, беспрацоўную
Павальнаму — каюк!

З пастavай незалежнаю
Спяшай, бы на кірмаш,
Зіму, як бабу снежную,
Выкульвай ў Ла-Манш.

Ды ў Боне ці Стакгольме,
Як хітра ні круці,

Бясхатняму і голаму
Усё адно капцы!

З інтрыгамі і звадамі —
Хто рад, а хто не рад —
З-за снегападу
                падае
Чарговы дзесь урад.

І як там дыпламатыя,
Майстрыха звад і змоў,
Прарэхі скрозь не латае,
Не змовіцца з зімой.

Урады з іх апекаю
Не прызнае зіма.
Бо каралевай пекнаю
Цяпер яна сама.

Ідзе, палотны сцелючы,
На вёрсты ўшырыню.
Пад ногі каралевічу —
Марозу-шчыруну.

Сумёты перагортвае,
Руйнуе кожны след.
Такой мятлюгі чортавай
Яшчэ не бачыў свет.

Няўжо з вятрамі збеглымі,
Што круцяцца, як вір,
І да капрызнай Бельгіі
Прыйшла яна — Сібір?

І, каб яе уразіла,
Завей даўжэзны шлейф

З вятрамі проста з Азіі
У падарунак шле.

Спяшае ён, аж горача,
Праз рэкі й трысцягі,
Бульдозерамі горнучы
Перад сабой снягі.

Лагчынамі і ўзваллямі,
Прасекамі бароў
Еўропу скрозь завальвае
Ажно да самых броў.

З лядовымі гірляндамі
З-за снегу ўжо, відно,
З далёкае Грэнландыі
Яе і не відно.

І просіць неяк стрымана
Еўропа — хіба грэх? —
Каб цёплымі гольфстрымамі
Экватар абагрэў.

*2*

І нас зіма у шэрані
Ні днём, ні уначы
Снягамі не абмерала,
Не абышла нічым.

Такі пякун па Цэльсію,
Што дрэвы з ног ляцяць.
Між дзён, як ні прыцэльвайся,
Адлігі не відаць.

З Снягуркай ходзіць пекнаю
Мароз, як апякун.

Вятры, што ў пекле пекліся,
Твар ранку апякуць.

І вока светафорава
Занёс завейны жвір.
Яно у снежным ворыве
Гарыць, нібы снягір.

Здалёк таполя гнуткая
Галінкаю кіўне.
І твар зусім не хутае
У футравы каўнер.

Цікаўнасць —
цётка сквапная —
Зірне на звонкі бор,—
Стаіць ён, як павапнены,
Касцёл альбо сабор.

Мароз не знаўся лёкаем,
Ды ўсё ж на скразняку
Хадою пройдзе лёгкаю
Ён з кожным пад руку.

Хоць снег вішчыць і каркае,
Яго не правядзе.
На ростань, быццам таркаю,
Па твары правядзе.

Агнём шчака усхопіцца
Ў заветранай цішы,
Хоць ты яе брандспойтамі
З пажарнымі тушы.

Блукае там, дзе жаўранак
Штодня ўзлятаў з-пад меж.

Мароз-траскун —
дзяржаўнае
Багацце,
і — не менш!

Ні оптам, ані ў розніцу,
І па крутой цане,
На экспарт не вывозіцца,
Не прадаецца, не!

Пад ласкай і пагрозамі
З далёкіх дат і дзён
Ніякае карозіі
Не паддаецца ён.

Сціскае рэкі з гацямі,
Адзене ў лёд асвер.
Не вельмі пацягаецца
З ім нават браканьер.

Трашчыць, страляе суткамі,
А трэба і — гасцей
Ён прабярэ, прастукае,
Як доктар, да касцей.

Бялюткі, як бярэзіна,
Ці, як паўночны лунь,
Але душой гарэзнаю
Ён — хват і весялун.

Няхай так вецер хвошча,
Аж з месца едзе зруб,
Ён пільшчык —
на падворышчы,
У лесе —
лесаруб!

Усюды кволасць вынішчаць,
Навошчаць палазы —
Зімовае апірышча —
Вятры і маразы.



* * *

Сорак з гакам,
Бы ля ўзгорка
ўзгорак.
Кожны з іх —
Амаль што пад рукой.
Мне здаецца, што пражыў
Не сорак,
А не менш, як сорак
Саракоў!

Ці ж не так?
Чаго тады здзіўляцца
Ды у сведкі клікаць
Дружбакоў?
За гады
Пад лютай акупацыяй
Колькі паўтарылася
Вякоў?!

Век дагістарычны —
Век пячорны:
Ворагі з агнём паўсюль прайшлі,
I ў зямлянках —
Дым ішоў па-чорнаму —
Бы ў пячорах, людзі скрозь жылі.

Век за ім услед ішоў
Каменны,—
I замест дамоў
Каменных тых,
Камяні ляжалі...
Густа кменам
Пахла на падворышчах
Пустых.

Век жалезны!
Гэтулькі жалеза
Накрышыла лютая вайна,
Што хапіла б на палях
I ў лесе
На наступны век яго
Спаўна!

Бронзавы!
Дзе-небудзь пад бярозай,
У мурзатай кузні
Ад відна
Конаўкі кавала
З цёмнай бронзы,
Рыпаючы мыліцай,
Вайна...

Рупнасць з працай шчыра
Клапаталі,
Фрэнч перашывалі

На каптан.
Час быў аднаўлення
Капітальнага.
А які ён меўся,
Капітал?..

...Два мільёны
Ды яшчэ з паловаю
Знішчаных людзей,
І — вёскі ўдоў...

З медсанбата йшлі,
Ішлі з палону
Да сівых і сёл і гарадоў.

...Нібы ў хаце
Шчыльныя масніцы,
У часіну грознае жуды
Ўсе вякі сумелі
Умясціцца,
Паўтарыцца ў страшныя
Гады!

* * *

Танк на п'едэстале!
Ці ж не так?
Быццам толькі выйшаў
З поля бою.
І застыў на глыбе
Грозны танк,
Прорву год
Адчуўшы прад сабою.

Кроіў голы дол
І дзірваны.
Катаў даставаў
І за шчытамі.
След ад тракаў —
Клінапіс вайны —
Хай пасля нашчадак
Расчытае!

Там, на апраметнай
Вышыні,
Учапіўся у граніт,
Як быццам
Ён баіцца ў вогненныя
Дні
З п'едэстала ўніз кармой
Скаціцца.

Ствол ускінуў
Вышай правадоў,
Дзе плыве хмурынка
Маладая,
Ды глядзіць на небасхіл
Гадоў,
Быццам штосьці пільна
Выглядае.

* * *

Восень з трывожнай
Развагай прыкіне:
Хто там, на лядах,
Дзе завадзі траў,

Гукі усе павязаў
Трапяткія,
Ды запраторыў іх
У футарал?

Глыбаю лёду
Хіба піяніна
Стыне, стаіўшы
І стогн і уздых?
То — саркафаг,
Ці труна-дамавіна
Гукаў прыціхлых,
Амаль нежывых?

Ах, піяніст,
Хіба ты не сваволіў?
Хіба з табой
Не дружылі вятры?
Дык раскатурхай хутчэй
І — на волю
Гукі, як чэлядзь, усе пратуры!

Крыгаю ліст
На пюпітр паклаўшы,
Што з азяродам
Лінеек касых,
Грозна з адчаем
Прайдзіся па клавішах
Гневам і роспаччу
Пальцаў усіх.

Каб з шаргаценнем
І ярасным гулам,
Быццам з прырэчных
Густых чаратоў,
Спуджана раптам

Уверх шуганулі
Гукі птушынай
Густой чарадой.

Вось яны, чуеш,
Тугія,
Капрызныя,
Гэтак, як высака
Ў небе вятры,
Ходзяць па кругу
Крутым, бы на прывязі,
Прыязна штурхаюцца
Угары.

Ды у бяссіллі
Амаль першабытным
І з нетутэйшай
Няўцешнай нудой,
Па аднаму,
Бытта птахі падбітыя,
Падаюць быту
На выбіты дол.

І піяніна, як пожня,
Што скошана,
Гэтак, як пушча,
Палеглая ніц,
Зноўку адрынута
І апустошана,
Бытта адрына
Да ранняя маўчыць.



Прывалачэцца хмара цёмная
І дрэвам выскубе чубы...
О, раўнадушша непуцёвае,
Маёй душы не зачапі!

Хадзіў з матыгаю ля морквіны,
А чуў мой слых і бачыў зрок,—
Імкне сасна, з натугі мокрая,
Вышэй лясоў, вышэй аблок.

І не магу я, каб з аглядкаю...
Калі ў туманны сырадой
Я шчыраваў,
то не над градкаю,
А над дубоваю градой.

Я калупаўся
не ў гародчыку,
Што ачуняў пасля зімы,
А над усёй зямлёй гаротнаю,
Каля усёй амаль зямлі.

Нібы ля роднай маці хворае,
Якой дыхання не стае,
Схіляўся з болем над гісторыяй,
Па-над старонкамі яе.

Яна ў затоках і завоінах.
Чыя ж, скажыце мне, віна,
Ледзь ачуняўшы, ўслед за войнамі
Ішла чарговая вайна?

Яна была той гулкай ступаю,
Дзе ўсё таўклі, і дол, і высь.

І чорны грыб ужо наступнае
Па-над планетаю навіс.

Страх ачмурэла вочы вырачыў,
Брыдзе па сушы, па вадзе.
Дык хто ж планету нашу выручыць,
Бяду уладна адвядзе?

І што там крыўды асабістыя,
Альбо уласная бяда!
Імчыцца час, падзеі быстрыя,
Нібы вясновая вада.

Хоць і гнялі, душа не зломлена.
Пайшлі глыбока карані...
О, раўнадушша, сілай цёмнаю
Маёй душы не закрані!..

* * *

Па жаданню ці капрызу веку
З пустатой нямою у грудзях
Паглыбляем і спрамляем рэкі,
Скарачаем іх да мора шлях.

А навошта? Хіба ад Дубечна,
Гэтай ціхай вёсачкі лясной,
Рэчка так спяшаецца дабегчы
Да узмор'я летам ці вясной?

Хіба прагне з пожняю расстацца,
Што навісла хмарай мурагоў?

Ёй даўжэй кружыцца б, нібы ў танцы,
Ў паваротах цесных берагоў!

З дуба капне нераспелы жолуд,—
Прарасце жальба або дубок?
Дзе рака пятляла,—
блісне жолаб,
Ці танюткі — з нітку — жалабок?

Што ж, спрамляем рэкі, рэжам пожні...
І спытаць сягоння мне карціць:
Хіба гэтым хоць на цалю можна
Шлях да дзён святлістых скараціць?

Не скароціш!
Трэба! Неабходна!
Лесам, стэпам, пожняй, па трысці,
Напрасцяк, аб'ездам і абходам
Нам да іх у наступе ісці.

Трэба нам абкладваць іх аблогай,
Ісціну засвоіўшы адну:
Перш няшчадна узнімаць аблогу —
Нашых душ і думак цаліну!

* * *

*Ів. Рубіну*

Ледзь прымружу вочы па начах,
І адразу бачу ў хвілю тую,—
Мёртвую матулю на руках
Сын нясе у хату, як малую.

Працаўніца рупная сяла
І шчыруння —
па вясковай мерцы —
Каб хаця на лаву прылягла
Перад той хвілінай, як памерці.

На гародзе, ў летнюю пару,
Падала на цень яна уласны,
Быццам з неба нізкага пярун
Неспадзеў у цемя грозна ляснуў.

Сівізны ды і гадоў сумёт,
А яна на гэтым свеце госціць.
Гаспадар ужо каторы год
Дзень пры дні чакае на пагосце.

З ёй жыццё усё ён саймаваў,
Не стамляўся, хоць было і дрэнна.
А цяпер, відаць, засумаваў,—
Бо рыпіць працяжна сухадрэвіна.

Час цягнуць, напэўна, ўжо дарма,—
Недзе блізка за паўвека бралася.
Выпадковасць?
Ці яна сама
У адведкі да яго сабралася?..

Ледзь прымружу вочы па начах,
І адразу бачу ў хвілю тую:
Мёртвую матулю на руках
Сын нясе праз годы,
як малую.

* * *

Трамвай, абліты бляскам,
Бліскотней за лядня,
Прагрукаў ды праляскаў
Па узбярэжжы дня.

У дрэў святлеюць душы
На ўскрайку рэк і ніў.
На акіяне сушы
Святла і дня прыліў.

Птушыная чародка
Ускалыхне смугу.
Дзяўчына
ці чаромха
Святлее на рагу?

Уся свіціцца прама,
Бы ў сотцы наўскасок
Распалены з вальфрама
Зіхоткі валасок.

Устрапянецца пудка,
Бо чуе — ці ж сакрэт? —
Як прагнуць грэшна грудкі
Праклюнуцца на свет.

Салодкі зман сукенкі
І пояса раўчук.
Абцасікаў сякеркі
Сякуць асфальт:
цюк-цюк!

І трэшчынкі-маршчынкі —
У бакі, як па лядку!

Пакуль жыве смяшынка,
Душа, не панікуй!

Няхай сабе і скруха,
Чарней ад вугаля,
Зірне падчас свякрухай
З-за цёмнага вугла.

Самоты аблачынка,
Адна між аблачын,
Па сэрцы крыгай чыркне,
Сплыве у далячынь.

Душу усцешыць ласка,
Бы ў спёку вадалей...
Далёка да Аляскі,
А да паўдня далей!..

* * *

Скупая, як зязюля,
Ад самага відна
Да сэрца дзятла туліць
Світальная сасна.

А ён, зеленачубы,
Не моўкне пад рукой.
Адно што гасіць дзюбай
Наводмаш, бы кіркой.

Рашыў дастаць да сэрца?
А можа,— прасачы! —

Ў мінулае акенца
Ён хоча прасячы?

Ці б'е па-заліхвацку,
Каб у наступны дзень
На досвітку знянацку
Употай паглядзець.

Сасне балюча, горна,
Ды на лясной градзе
Ўсё бліжай дзятла горне
І туліць да грудзей.

Дупла зіркатым вокам
За далячынь палёў,
Нібыта перыскопам,
Цікуе з гушчароў.

* * *

*А. Пацёмкіну*

Каб час падзення скараціць,
Скачок паспеў тугія стропы
У ком каменны збіць, скруціць
На ўзмежжы Азіі з Еўропай.

У кантынентаў на віду
Мільгнуў знячэўку, быццам камень.
І, як у цёмную ваду,
У крутаверць світання кануў.

Душой ніколі не нудзеў,
Калі й сябры падчас нудзелі.
А тут — раптоўна, неўспадзеў!
І — хоць бы каліўца надзеі...

Прыціхлі вострыя вятры,
Што твар палілі і стрыкалі,
Калі па схіле ён з гары
Слізнуў амаль па вертыкалі.

І там у снег, што, як сахой,
Вятры ўзаралі і парылі,
Увесь зарыўся з галавой,
Як у спякотны дым парыльні.

Сумёт, здаецца, аж прысеў,
Прымружыў вочы у здзіўленні:
Няўжо шчасліва ацалеў
І не разбіўся у падзенні?

Ці быў адчай?
Ці быў ён, страх?..
Ішоў дэсантнік
снежным плёсам,
А парашут, нібыта птах,
Услед падбіта
крыллем плёскаў.



## *МАЛАДЫ СНЕГ*

Вяскоўцы і гараджане,
Гляньце ў акно: сама
З нізкіх хмар адгружае
Снег маладзы зіма.

Валіць, як з самазвала,
Для горада і для сяла.
Летась паскупавала
Абмерала, не дадала!..

Хоць пад вятровыя зыкі
Цераз імжу-каламуць
Кідайся было у пазыкі
На Кольскі ці Калыму...

Трэба ж гэтак злаўчыцца:
Сасонкі пагнула ў дугу...
Хоча зіма разлічыцца,
Не заставацца ў даўгу.

Пуховік, як добрыя цёткі,
Каб рукі мароз не спаліў,
Нацягваюць да падбародка
І — засынаюць палі...

* * *

Задуху ледзьве коўтае
Малое птушаня.
А дзень кініць спякотаю —
Не можа ачуняць.

Дзялянкамі, палянамі
Памлеюць верасы.
І сноўдаюць, як п'яныя,
Мядзведзі і ласі.
З пагрозаю вуркочучы,
Над плёсам ярыны
Вятры паўсюль выкочваюць
У хмарах перуны.
Дождж хлыне, як з аддушыны,
Глядзіш, і — дол упрэў!
І ўгору пара душная,
Нібы з катла, папрэ.
Дзе шыгалле аблетала,
Нагою грабяні —
Цвет сіне-фіялетавы,
Пабачыш цвет грыбны.
Грыбы зямлю гарачую
Пад раніцу, лічы,
Праб'юць, як парасячыя
Ружовыя лычы.
Нізінамі і ўзваллямі
Ababak столькі скрозь,—
Хоць ты іх самазваламі
Хутчэй тралюй, вывозь!
І на апенькі собіла:
У маладым барку,
Нібы аднаасобнікі,
Стаіліся ўбаку.
Рыжкам па рангу табельным
Грыбоў —
            няма цаны!
Яны ў нізінцы табарам,
Нібыта цыганы.
То хмурацца, то лаюцца
Раз-пораз грыбнікі.
Хаваюцца, туляюцца

Ад іх баравікі.
Сарока хоць пацвельвае
І дзяцел аглушыў,
Ды баравіны спелыя
Ў кашах плывуць з глушы!..

* * *

Гэтулькі крыві за ўсё сплацілі,
Каб яе ў адзін паток сабраць,
Самыя высотныя плаціны,
Ці змаглі б яе напор стрымаць?

Столькі мы ўзвялі і ГЭС і ліні
Цэдзіць так святло з усіх бакоў,
Што, здаецца б, да шматка спалілі
Тым святлом мы цемру ўсіх вякоў!

* * *

Ізноў вайна зіркатым жэрлам,
Павек якога не забыць,
У вочы хіжа, ненажэрна,
З лядашчым холадам глядзіць.

І не адтуль,
дзе ўжо не ступіць,
Не прабяжыць маленства больш.

Глядзіць зірката
з дзён наступных,
З іх непакошаных
пакош.

Мы выйшлі разам з-пад абвала
Тых дзён,
што з дымнай гаркатой.
Дык дзе ж хітрушча абагнала,
І на якой вярсце крутой?

І небасхіл за даллю шэрай
Там, дзе разбег бярэ зямля,
Як непрыступную траншэю,
Яна пагрозна заняла.

І з даляў тых, куды бяруся,
Цікуе, хіжая, з байніц,
Каб з вераломнасцю ў хаўрусе
Агнём накрыць і спапяліць...

## *КНІГІ*

Падзея, пэўна, з падзей!
Не стане яна зацененая.
Склікае аб'ява людзей
«Старыя кнігі, уцэненыя».

З усімі ля кніжных паліц
Таўкуся, да ніткі прамоклы.
І хочацца часам пакпіць,
І не пайсці прымоўкла.

Я, сын павітухі-раллі,
Пытаюся тут адкрыта:
Якога д'ябла раўлі
Аб актуальнасці крытыкі?

І Орша, і Мінск, і Чыта
Не хочуць лухты чытаць
Пра ўздыхі пад шэрай вярбінаю
Ды ціўканне вераб'інае.

Бо знаюць: жыццё — не рай
З сярэбраным звонкім ключыкам.
Сягоння людзям падай
Яршыстага і калючага!

Таго, хто ад шчырай душы
Шкадуе пакрыўджаных часта,
І трубіць, калі для машын
Парой не хапае запчастак.

Гугнявім: ацэніць народ! —
Уласнай халтурай зацененыя.
Народ жа кнігі, як агарод,
Прапалвае і — уцэньвае.

## *БОЛЬ ДЗЯЦІНСТВА*

Калі вазок у пушчы
Палоззем паласне,
Нібы ручай відушчы
Душу апаласне.

А прасклыгоча фура
Сялом ці па шашы,
І зробіцца панура,
Пахмура на душы.

...З ваеннага бяздоння
Прысунулася, факт,
У сорак той... бяздомны
Яна, як катафалк.

Злачынцаю ці сведкай,
З апёкамі ад куль,
Нямела ўскрай сусветнай,
Няскончанай пакуль.

Пад ёй пасліся куры,
Над ёй —
гурты грамоў.
Аднойчы каля фуры
Сышліся мы гурмой.

Зірнулі:
злева й справа
Нікога не відаць.
Чаго ж тады без справы
На месцы ёй стаяць?!

Ці доўга варажылі?
(Не дзеці, балазе!)
Крукоў яна вазіла,
І нас хай правязе.

Прапахлую тратылам
(Наляж ды падналры!)
З натугай ускацілі
На макаўку гары.

Цяпер не будзь марудай,
А колькі сіл стае,
Той самаю мінутай
Куляйся у яе!

Набілася — не сесці,
Плячэй не зварухнуць...
Ану, кранайся з месца,
Ні хвілі не марудзь!

Калі і ты з хітрушчых,
Мы талакой усёй
Барты уміг патрушчым,
На трэскі разнясём.

І ў вохры цёмна-рыжай
Перш дышлем спакваля
Перад сабою хіжа,
Як біўнем, павяла.

І — рынула ў лагчыну,
Аж загрымела дно,
Жывая дамавіна,
Без века што адно.

І з крушнямі-стагамі,
Як толькі і магла,
Гара аж застагнала,
Пад ёю загула.

І, быццам шаляніцы,
Падцяўпшы быльнягі,
Зліліся колы й спіцы
Ў бліскотныя кругі.

Шалёна і гулліва,
Іскрыстую, бы ў золь,

Яна ўзрывала гліну
І кроіла падзол.

Ляцела так, што марна
Суцішыць ці спыніць.
Імгненне! І ў захмар'е,
Драпежная, ўзляціць!

І, як усё там выйшла,
Даўмейцеся, сябры!
Крутнула раптам дыпіла
І — прама пад абрыў!

Бы ў ванне твары вымыў
Нам страх, і — пад мятлу
Усіх з той фуры вымеў,
Як лісце ці мятлюг.

Адзін у ёй матляўся
Сусед мой і сябрук,
Што з кульцямі застаўся
З вайны
            заместа рук.

Трашчала чарапіцай
Жарства і з ёй быльнёг,
А ён усё ўчапіцца
У борт ніяк не мог.

І на ляту штосілы
У той труне глухой
Яго з размаху біла
Аб дошкі галавой.

Знямогшыся, нябога,
Ад страху неўспадзеў,

Як з берага другога,
На нас усё глядзеў.

А дамавіна-фура,
Узорваючы глей,
Адносіла віхурай
Далей і ўсё далей.

Мільгалі колы шпарка,
Дол кроілі адно,
Як пілы цыркуляркі
Прамёрзлае бярно.

Аж покуль, быццам трэску,
Пад хмарнае крыло
Цяжкую фуру з трэскам,
Шпурнуўшы, не ўзняло.

І, быццам дужым ветрам,
Што ўслед ляцеў з гары,
Шалёна ў паветры
Крутнула дагары.

Ці ўспеў ён крыкнуць:
— Мама!..—
З балючаю віной,
Як паляцеў у яму,
Разрытую вайной?..

І фурай, быццам векам,
У немаце жуды
Накрыла, і — навекі,
Накрыла — назаўжды!

...Дзе час той?
За дымінай
Гадоў, што не злічыць!

А фура дамавінай
Усё з гары грыміць.

У дзень зірну ўчарашні,—
Тугі не адагнаць!
Чаму павозкі страшнай
Не здолеў я дагнаць?

Чаму ж, хоць быў і кволы,
Не чуў ні рук, ні ног,
Яго з труны на колах
Я выхапіць не змог?

Чаму ж у сне начамі
Без голасу крычу,
Нібы дасюль з адчаем
У прорву сам лячу?

Чаму ж дагэтуль бачу,
Хаця і сам не рад,
Дакорлівы, гарачы
І роспачны пагляд?

І ў немаце, без енку,
У той труне глухой
Да гэтых дзён аб сценку
Ўсё б'юся галавой...

...Не мае памяць броду.
Дзень кожны — даражэй!
Далей былыя годы,
А — боль усё бліжэй!

## *У МУЗЕІ*

Былое —
то здаппю, то ценямі —
Хоць плечы ў здзіўленні стулі...
Хто ж знаў, што за гэтымі сценамі
Трафейныя дрэмлюць ствалы?!.

Увага ім трэба асобая.
Пра гэта хоць бі ў званы!
Бо ім ацалелымі собіла
З пякельнае выйсці вайны.

А хіба аблогу, лядашчыя,
Апоўначчу зглухлай і днём,
Рыкаючы грознымі пашчамі,
Уверх не ўзварочвалі дном?

Ды зноў гэтак білі і гасілі,
Што выстралы з той калатні
Пасля залятаді фугасамі
І ў нашы нядаўнія дні.

А сёння зіркатымі жэрламі,
Як глянуць праз шыбы на міг,
Аж дрэвы хіснуцца зрыжэлыя,
Нібы іх ударадь пад дых...



## *МАРАЗЫ*

У кірзачы абутыя,
У полі й між лазы
Са скрыпам ходзяць
                    лютыя
У лютым маразы.
Бялёсыя і гнедыя.
Шклярэзы.
            Разьбяры.
Рахманыя і гнеўныя,—
Ідзі іх разбяры!..
У світцы ці паддзёўчыне,
Як дзецюкоў, сама
Бярэ іх у падзёншчыкі
Скарэдная зіма.
Пакуль вятрыска раніцай
Снег з воблакаў трасе,
У сілу убіраюцца
Памалу, пакрысе.
А дзень на неба ўскоціцца
І заіскрыцца стынь,
Пачнуць каваць бліскотныя
Ды звонкія масты.

У лёд адзенуць возера,—
Хай спіць на дне шчупак!
І за сякеры возьмуцца —
Давай бары шчапаць!

А пройдуць гулкай пушчаю,
Глядзіш, і — не адна
На трэскі ўшчэнт патрушчана,
Пакрышана сасна.
Прадыбаюць узлессямі,—
Ад страху скрозь дубы

Стаяць, як Геркулесавы
Знямелыя слупы.
Ад іх, нібы апечаны,
Ляціць праныра-ліс...
Сваволяць па-хлапечаму
З грудзямі нарасхліст.
А ці даўно з барадамі,
Хаця і бабылі,
Хадзілі ваяводамі
І ў гетманах былі!..
Маглі яны пацешыцца
Удосталь нават днём
З крутымі самадзержцамі
І світай заадно.
Такога ўжо характару,—
Захочуць дапячы,
Ахова імператара
Для смелых нічым!
Нырнуць умомант, стылыя,
Пад цёплую даху,
І сціснуць з гэткай сілаю,
Што нечым і дыхнуць.
Шчыруюць, аж запарацца.
Цара ім не шкада!
І ўміг лядовым панцырам
Абліта барада.
З лядункамі-гірляндамі,—
А быў зусім руды,—
Блішчаў, нібы Грэнландыя,
Клін царскай барады.
Ахова ачмурэлая
Ўміг шаблі — нагала!
Ды маразам у шэрані
Даць рады не магла.
Валадара імперыі,
Як выбаціць з бяды?

Бо не сячы ж сякераю
Лёд з царскай барады...
А маразы штурхаліся
Непадалёк зусім
І хітра пасміхаліся
У доўгія вусы.
Да ўсіх нягод прывычныя,
Па-ўсякаму й жылі.
І толькі ў апрычнікі
Да хцівых не ішлі.
А велічы дастойныя,
Не раз і не другі,
Як ратнікі, адстойвалі
Дзяржавы берагі.
Па свеце й сёння чуецца
Пра тое і адно,
Чаму тэўтонаў Чудскае
Забрала ў спрат,
на дно,—
Лёд маразы паслабілі,
І рыцары-тузы
Ішлі у вір, бясслаўныя,
Як грузныя вазы.
Жалеза глуха скрыгала,
І лёду храп не ціх.
Навек, як векам,
крыгамі
Там і накрыла ўсіх...
Былі яны адплатаю,—
У воблаках імглы
Грамілі з войскам Платава
Французскія тылы.
Ад гневу іх з манаткамі —
Не трапіць бы ў палон! —
З падмазанымі пяткамі
Ляцеў Напалеон...

І шэрагамі шчыльнымі —
Ім, вораг, не гразі! —
З байцамі у Айчынную
Стаялі маразы.
Як быццам і звычайныя,
Яны усё ж такі
На ўсіх франтах адчайныя
Былі франтавікі.
Як полымя, пякучыя,
Пасля дажджоў, гразі
Ў шарэнгах атакуючых
Ішлі і маразы.
З байцамі так стараліся,
Што скрозь, нібы агнём,
Пяклі ваяк фон Паўлюса
Ля Сталінградскіх стром.
Злівалі пал, лядашчыя,
З агнём, чый грозны рэй
Вёў гнеў усімі пашчамі
Грымотных батарэй.
Сівымі папялішчамі
Каціліся, як вал.
Выпальвалі і нішчылі
Чужынцаў напавал.
Іх даставалі, шчырыя,
Глыбока у нары,
У кожнай бруднай шчыліне
І нават капуры.
Ім аддадзім належнае,
Бо колькі свалаты
Паклалі ў дол заснежаны
Пад мёрзлыя пласты...
Навекі паядналіся
З тых незабыўных дзён
Агонь святой нянавісці
І маразоў агонь.

І сёння — хіба здзівяцца? —
Яднаюцца ў цішы
Пал маразоў задзірыстых
І пал маёй душы.
Яны заўсёды ў наступе
Ў пасёлку і глушы.
Рабочая дынастыя
Ім, дружным, па душы.
А грымнуць,
бы хто выстраліць
Са стрэльбы — не дрыжу.
Я з імі, наравістымі,
З далёкіх дзён дружу.
Што падружыў — не каюся,
Ім рады, як радні.
З калючымі рукаюся
Па колькі раз на дні.
Гукаю ім над кручаю,
Дзе свішчуць палазы,—
Характару пякучага
Не страцьце, маразы!
Як і ў далёкай прошласці,
Так трэба шчыраваць,
Каб не было як пошасці
І галавы падняць!

* * *

Геаметрычная прагрэсія,
Якой бы сцежкай ні ішоў,
Каля цябе зусім не грэюся,
А стыну сэрцам і душой.

Паўсюль затворы гучна клацалі,
І ты штодзённа — не хлушу —
Не ў сшытак формулаю клалася,
А болем
тузала
душу.

Ці ж сярод попелу каравага
Я мог забыць цябе на міг?
За ката,
гневам пакаранага,
Хапалі каты семярых.

Грымелі чэргі,
стрэлы бухалі,
І прыбаўляліся, раслі,
Крывёй нявіннаю набухлыя,
Як петлі, тлустыя нулі.

...Сасняк на могільніках —
сохамі.
А радаслоўныя?
Зірні!
Яны — як рэкі перасохлыя,
Нібыта высмяглыя дні.

Вайна —
засадамі і пасткамі
Каля сяла,
ускрай ляска...
Ад цэлых сем'яў —
ані парастка,
Ані зялёнага лістка!..

Не для таго, каб падзівіліся,
Няхай адкажа эрудыт,—

А колькі тых не нарадзілася,
Якіх павінны б нарадзіць?..

Хоць абеліскі ўсталі высака
На раздарожжах крыжавых,
Але ці ўсе імёны высеклі,
Хто не застаўся у жывых?

Геаметрычная прагрэсія,
Душой нудзеў я
ці святлеў,
Ты для мяне навечна —
крэсіва,
Што высякае боль
і гнеў.

* * *

Гнеў людскі
Упартым дрывасекам
Церабіўся мужна
Напрасцяк...
Вымкнуў ён
З-за небасхілу
Веку
Ленінскай гісторыі
Бальшак.

І ў падзеях,
Быццам бы у кратэрах,
Праз імжу
І недавер'я смог,

У эпохі нашай
Па экватары
Зорным шляхам
На вякі пралёг.

Дзень сяўбы
І светлай Перамогі —
Чалавецтва,
Гэта не забудзь! —
У яго ўпадаюць,
Як дарогі,
І за небакрай гадоў бягуць.

## *БУЛЬБА*

У той святлісты
Высакосны год,
Што поўніўся і водарам
І спевамі,
Чакаў увосень плуга
Агарод
З бульбоўнікам
І бульбаю даспелаю.

Трываць, здаецца, бульба
Не магла,
І гэтак з душнай цемрадзі
Прасілася
Наверх да галасоў
І да святла,
Што аж зямля навокал
Варушылася.

І покуль дзесь вароны
У галлі
Не ўсчалі уранку
Гвалту-дыспуту,
Прайшоўся плуг
І вывернуў з зямлі
Багацце тое,
Што было спадыспаду.

Па чарназёму
Узнятай баразны,
Якую і вятры яшчэ
Не кратали,
Святлела бульба
Снежнай белізны,—
Буйная,
Крутабокая,
Зіркатая!

У кожнага
Перахапіла дых,
Была яна, нібы апаласканая,
Падобна так
Да маладзічак тых,
Што выйшлі з лазні,
Душнай і ласкавае.

Аж пасвятлеў, здаецца,
Небакрай,
І стала больш у небе
Чыстай просіні.
Бяры яе хутчэй
Ды выбірай!
Ці ж не сама, зірні,
У рукі просіцца?

Каб болей не нудзець
Ускрай сяла,
Дзе пахла бульнягом
І кукурузаю,
Яна ў кашах, гарэзная,
Плыла
І сыпалася з рогатам
У кузава.

## *НА АЎТОБУСНЫМ ПРЫПЫНКУ*

А ён садзіцца першым
Не спяшае,
Хоць з ротай баявых
Таварышоў,
Лічы, што недзе першы
Праз Варшаву
Аж да Берліна дымнага
Дайшоў.

Не, ён не з тых,
Што сыдзецца і з чортам,
Каб абхітрыць, урваць
Спаўна штораз.
Без медалёў пінжак яго
Пацёрты,—
Не носіць іх ніколі
Напаказ!

А быў жа ў гэткім пекле
І грымотах,

Што ў вайну
Ды і пасля вайны,
Не ён шукаў,
А па усіх шыротах
Яго шукалі самі ардэны.

Калі ён уставаў
Супроць абразы,
Ці думка йшла
З чыёюсьці ўразрэз,
Нідзе узнагародамі
Не бразгаў,
Адно рыпеў, пратэставаў
Пратэз.

Былі паўстанкі,
І былі прыпынкі,
Як вось і тут,
Калі адцёршы ўбок,
Ківалі пальцам грозна,
Каб не пікнуў,—
Інакш трымайся!
Не паможа й бог!..

І ён трымаўся,
Ён свайго трымаўся,
Хоць быў падобны сам
Таму лістку,
Што сцюжам і вятрам
Не паддаваўся,
І ўсё ж ліпеў,
Нібы на валаску.

Ды праўда, што патрэбна
Дазарэзу
Для ўсіх адразу,

І табе, і мне,
Больш франтавому верыла
Пратэзу,
Чым сытай ды аздобленай
Мане.

Ён мог наперад
І цяпер палезці,
За праўду пастаяў бы ён
І тут.
Ды знае добра:
Знойдзецца і месца,
Калі надзейны маецца
Маршрут.

## *ДАЛАНЯ*

Вось табе на ростань далоня!
Падаю не згодна абавязку.
У ёй — хіба не чуеш? — дабрыня,
Гневу холад з цеплынёю ласкі.

Вецер нас і лівень абдаваў
У густой начы і на світанні.
Колькі раз далонь я падаваў
Пры сустрэчы і пры развітанні.

Не дрыжу, нібы асенні ліст,
Хоць яно збываецца з гадамі
Тое ўсё да кроплі, што калісь
Мне па ёй цыганка нагадала.

З памяці ніколі не сатру
Ні уласнай радасці, ні страты.
Ёй вітаў я чэснасць, як сястру,
І давер спагадлівы, як брата.

Маладосці сіняваты дым,
Туфелькі і паясок дзявочы...
Што было у позірку маім
Выдавалі, мабыць, толькі вочы.

Даланя была, як абцугі,
Для таго бязвусага кастрата,
Што ужо не раз і не другі
Выдаваў за спачуванне
здраду.

І яна — рашучасці паўпрэд —
З гарачлівым ды маўклівым гневам
Бралася не раз за важкі прэнт,
Каб давесці праўду за імгненне.

Нават да пякельнага агню,
Што выцягваў у здзіўленні шыю,
Я цягнуў з даверам даланю,
Каб яго дажджы не патушылі.

І руку паклаўшы на душу,—
Гэткая прыпала нам эпоха! —
Я скажу вам, што яе пашу
У шрама́х сягоння і апёках.

Што трапляла пад руку, усё,
Як заўсёды моцна і трывала,—
Хай там тапарышча,
хай кассё,—
Даланя, сціскаючы, трымала.

Даланя, я знаю, не браня,
Ды ў штодзённым клопаце з дасвецця,
Простая людская даланя
За усё мацней на гэтым свеце.

Не была ніколі сіратой
І навекі гэткаю не стане.
Ад пяшчоты
                    далані людской
На зямлі ва ўсе часы
                              світала!

* * *

Калі сонца восеньскае дорыць
Ласкі менш, то менш і прамянёў...
Па усіх бальнічных калідорах
Маці ў гэту восень я правёў.

Падазрэнне пазірала скоса,
Маючы на ўвазе кожны міг
Тую, што наўзмах
Няшчадна косіць
І міністраў, і ўрачоў саміх.

Ад страхоцця маці не нямела,
Хоць згасала у вачах святло.
Мо палохацца яна не ўмела,
Ці прычынай іншае было?

І чаго дзівіцца, калі стала
У двор, дзе крапіва і лебяда,

У вайну ішла ды праставала
За бядой чарговая бяда!

З-за хваробы, хітрай правакатаркі,
Цемра падступала да вачэй.
Калі мелася дзе-небудзь катарга,
То на ёй было куды лягчэй!

Луг касіла, стог таптала высака
Не гады, здаецца, а вякі.
Ад натугі не людской і высілку
Зрушыліся з месца пазванкі.

І ў заядлай да грыбоў і ягад
На двары, дзе каранёў гузы,
Памяркоўны доктарскі дыягназ
Высек кроплю полымнай слязы.

Па шчацэ яна мільгнула знічкай,
Каб згарэць, злятаючы далоў.
І знячэўку важна і нязвычна
Мне яна упала на далонь.

Хоць і сам я ледзьве горыч коўтаў,
Ды адчуў, здаецца, ўпершыню,
Колькі у слязе было гаркоты,
Гневу і пякельнага агню!

У налітай роспаччу і жалем,
Веку ўжо пражытага, лічы,
Гэтулькі ўмясцілася цяжару,—
Не ўтрымаць яго і на плячы!

І з журбой, дарэшты ператлелай
І ачахлай неяк неўпрыкмет,
Маці сціпшана і пасвятлела
Пазірала на людзей і свет.



Тут кожная, на бальшаку,
Вярста,
Што рэжа лес
І йдзе у полі чыстым,
Дзеля мяне і сёння,
Як варштат,
Дзе габляваў я дні
Свайго дзяцінства.

Каб я бліжэй быў
Да свайго паўдня
І бачыў з краю ў край
Абсягі веку,
Пясчаны насып
Над зямлёй прыўзняў
Даўгія вёрсты
Гулкае гравейкі.

Узмахваючы маладым
Крылом,
Гады мае,
У небе вы арлелі!
Завязаны тут для мяне
Вузлом
Мерыдыяны ўсе
І паралелі.

Дзе б ні блукалі вёрсты
На зямлі
І праз якія б ні ляцелі
Далі,
Дамоў з усіх шырот
Яны вялі,
Да родных месц
Сасмягла дападалі.

* * *

Свет увесь падчас абняць
Не грэх.
Ды ці трэба сэрцу
Сантыменты?
Балістычная імкне
Уверх
Ад яго, лічы,
У сантыметрах!..

Вам пацвердзіць
І вучоны мэтр
З ціхаю усмешкай пакаяннай:
Прыстраляцца з сушы
Кожны метр
У сусветным гулкім акіяне.

Чалавек,
Няўжо душой аслаб
Ад трывог
І страху незямнога?
Хто ты сёння,
Бог ці кволы раб?
У каго?
Ды у сябе самога!

Дол капай
І рукі ў ім купай,
Ды не будзь жа
Цераз край ты прагны.

У душы нястрымна
Закіпай,
Гнеў, на ўсё ліхое,
Нібы магма!

А зямля — то гліна,
То пясок —
Адначасна маладзіца
Й лэдзі!..
Боязна дыхнуць
На валасок,
На якім ліпіць
Планета ледзьве...



* * *

А маці так прыйшлося захварэць,
І так яна стагнала у знямозе,—
Радні усёй здавалася, што смерць
Сядзіць савой лупатай на парозе.

Упершыню тады, на схіле год,
Не памагла на ногі ўстаць і кульба.
А рук прасіў за хатай агарод,
Дзе пад зямлёю аж стагнала бульба.

А ў небе ні хмурыначкі наўкруг,
Якіх увосень, бы на лаце лата.
Калі б хвароба не згінала ў крук,
Пабегла б і з бальнічнае палаты.

І бульбе — хіба гэта не відаць? —
Бездапаможнай, як таму малеццю,

Упершыню ў зямлі зазімаваць
Пад вымерзлым карэннем давядзецца.

Ды рупныя суседзі і радня,
Калі яшчэ і добра не світала,
Сабраліся і бульбу да паўдня
Вясковай талакой абраталі.

Націну, з ураселай сівізной,
Гартаў плужок, сыходзячы з пагорка,
Нібыта з кожнай новай баразной
Ад маці боль усё далей адгортваў.

І, дзіўна, ёй рабілася лягчэй,
З вачэй густой смугі сплывалі пасмы.
Дзень гаманіў гучней ды і званчэй,
І справамі ўсё бліжай падступаўся.

І ледзьве снег паслаўся на сады,
На дахі лёг таўшчэзнымі пластамі,
Як са двара бальнічнага сляды
На досвітку ў сяло папраставалі.

* * *

Зарастае двор наш крапівой,
Быльнягом дрымучым зарастае.
Тоне хата ў гушчары страхой,—
Хутка двор глухою пушчай стане.

А хіба даўно тут тапары,
На дрывотні, ззаўха гучна гракалі?

Я на цесным матчыным двары
Вывучаў калісьці геаграфію.

Як і трэба кожнаму двару,
Каб не зіркаў з хіжасцю сычоваю,
Я матыку з-пад страхі бяру,
Непралазь густую выкарчоўваю.

Выдзіраю быльнягі жыўцом,
Лебяду ад раніцы зраселую.
Не, не забыццём,
А ўсё ж жыццём
Будзеш, матчын двор,
Павек заселены!

* * *

Па-над зямлёй,
Над цішынёй пакош,
Хачу я ўсёю існасцю
Даведацца:
Хто выкаваў у небе
Зорны Коўш
І пасяліў адразу
Дзве Мядзведзіцы?

Мой продак,
Што яшчэ не адышоў,
Ды ўжо ў нябёсы
Лёгка адлятаючы,
Так верыў малітоўнаю
Душой,

Што будзе жыць і там,
У зорных далечах.

Раллі аддаsuccessfully вечна
І сяўбе,
І з вераю у сэрцы
Непадступнаю,
Хацеў ён мець і там
Каля сябе
Звяроў, жывёл
І рознага пасудаку.

Хацеў ён хлеб расціць,
Як і расціў.
Пра іншае і думаў
Як найменей ён.
Таму вось і сузор'і
Ахрысціў
Найблізкімі і роднымі
Найменнямі.

## ПУНКТ АПОРЫ

Ах, матэматык,
Сіракузскі маг,
Ты нарадзіўся чарадзеем, ведама.
І чарадзейны вынайшаў
Рычаг,
Які завуць і сёння —
Архімедавым.

Палохаў і здзіўляў
Цароў і люд,

Ты гаварыў, да сэрца мару
Тулячы,—
Мне дайце пункт апоры
І — Зямлю
Я на вачах перавярну,
Жартуючы!..

Нямала адгуло трывог,
Вятроў,
Пакуль яго знайсці
Было нам дадзена.
Расчэпленае стала ім ядро
Для выбуху,
Што мы назвалі —
Ядзерным!

Ах матэматык,
Сіракузскі маг,
Ці быў бы навіною ты
Расчулены?
Знайшлі апору,
Маем твой рычаг!..
Няўжо эпоха
Будзе перакулена?

Няўжо ўшчанецца
Гэткі землятрус
І пройдзе так ён
З ядзернаю доўбняю,
Што скрыша ўсё
На чарапкі і друз,
Загнаўшы свет
У цемрадзь дапатопную?!

## *БЯССМЕРЦЕ*

А дзьмухаўцовы пух
Ляцеў і плыў з кювета...
Нашто мне, добры друг,
Ты расказаў пра гэта?

Бы дымам свет заслаў
Ці параю ахутаў,
Шаноўны Яраслаў
Па прозвішчу Пархута.

Не ў дальнім гарадку,
Не ў родным сельсавеце,—
Пабыў ты на вяку
На тым, як кажуць, свеце.

Адрынуты ад спраў,
Часінай невыкрутнай
Ты доўга паміраў
І гаснуў надта трудна.

Тады, як нехта з нас
(Крывіць душой не будзем)
За куфлем бавіў час
Ці ў рэчцы рыбу вудзіў.

А побач ні дзяцей,
Ні маці, ані жонкі.
А боль усё мацнеў
І рэзаў, як нажоўкай.

Ты ведаў, што з начы,
Стаміўшыся да змогі,
Медсёстры памагчы
Нічым ужо не могуць.

І самаму, відно,
Хваробы не адужаць.
Было табе адно
Чамусьці крыўдна дужа...

У ранка на віду
Агнём паліла вусны.
І быццам пад ваду
Ты нечакана шуснуў.

Дзесь паравоз свістаў
І чуўся пеступ-пошчак.
А ты раптоўна стаў
Для медсясцёр нябожчык.

Ляжаў ты за сцяной,
Злажыўшы рукі-крылы,
І белай прасцінай
Цябе ўжо акрылі...

На прывіднай мяжы,
Дзе разгубіцца можна,
Урач, дапамажы!
Ці ж ты бездапаможны?

І ўміг, ні даць ні ўзяць,
Ён уляцеў, як бура.
— А мо паспрабаваць?
Давайце паспрабуем!

Хоць лепшы меў намер
З усіх, што ёсць намераў,
Ды ў цуд і ён цяпер,
Прызнацца, мала верыў.

Патрэбен тут не спрыт,
А талент той, што з рэдкіх...

Не бачыў ты, як шпрыц
Узяў урач з сурвэткі.

Зірнуў паверх галоў
У сквер, дзе цені чэзлі,
І грудзі пракалоў
Іголкаю даўжэзнай.

Ля ложка аж прыўстаў
На дыбачкі, здаецца,
І ў той жа міг дастаў
Да саменькага сэрца.

Збалелае, давай,
Хоць ціхенька заторгай,
Як рэчка ці ручай
Вясной пасля затору!

Ледзь чутна задрыжы,
А потым чалавеку
Аддана паслужы
Яшчэ хаця б паўвеку!..

І сэрца перш звяло,
А потым рытм спаймала,
Уздрыгнула, пайшло,
Затахкала памалу.

Не помніш ты як след,
Калі ў адно імгненне
З таго на гэты свет
Вярнуўся у здзіўленні.

Не ўспомніў бы, між тым,
Каб запытаў і следчы,

Што там, на свеце тым,
Пабачыў і засведчыў.

Ачнуўся ты, як драч,
Зірнуў у вочы чэпка,
Аж адхіснуўся ўрач
Спалохана знячэўку.

Як быццам неўспадзеў
Зрабіў зусім не тое,
Што ён зрабіць хацеў
Хвілінаю крутою.

І, можа, вось таму,
Як знакаміты дока,
Ты падміргнуў яму,
Маўляў, жывы я, доктар!

І не дзеля таго,
Каб зноўку напалохаць,
Падаўся да яго,
Прыўзняўшыся на локаць.

...І зараз пры кійку
Жывеш, не хмурыш бровы.
І слухаеш «ку-ку»
У маладой дуброве.

Пад хвойнае крыло
Ідзеш ты лугавінай,
Нібыта не было
Нічога і ў паміне.



# *ТРЭЦЯЯ СПРОБА*

*Паэма*

Алег Мікалаевіч Караваеў!
Чаму твая памяць душу дакарае,
Душу дакарае ды жорстка карае?
Сірэна завые шалёнай гіенаю,
Урэжуцца фары у ноч аўтагенамі.
Пракоціцца «хуткая»
з енкам і пошчакам.
Няўжо да цябе?
Ты ж даўно між нябожчыкаў!..
Нябожчык!
Што гэта?
Мо званне ці тытул,
Які высякаюць справедку на плітах?
Ды толькі скажы мне
пры чым, дружа, ты тут?
Ты ж тытул насіў,
што і сёння узблісквае
Святлом чэмпіёна,
барца алімпійскага.
Насіў яго лёгка,
як быццам няспешна.

Не гэтак, як тыя,
што славаю спешчаны.
І раптам — нябожчык!..
І — памяць нябожчыка.
Аж хочацца войкнуць ад роспачы:
— Божачка!..
Бо гэта зусім не мянушка паганая,
Яе не страсеш,
бы казяўку, з пагардаю.
Яна на вяку,
можа, раз толькі дадзена
З вялікае ласкі гундосае дзядзіны...
Нябожчык!..
Які гэта жудасны тытул!
Яго у газетах друкуюць петытам
У рамцы-акне на апошняй староцы.
І гэтай старонкі
ніхто не староніцца
Няхай будзе ён акадэмік ці шыбенік,
Да рамкі той цягнецца,
быццам да шыбіны.
Чытае
і бога і свет гэты просячы,
Каб часам не стрэць
дарагога там прозвішча.
А — стрэне,
хаця не адразу паверыцца,
Ды свет для яго ўсё адно перавернецца...
Зірнуў я аднойчы у гэтую шыбіну
І — ўздрыгнуў,
нібыта пабачыў там шыбельню.
Зноўку я глянуў і ледзьве не ўскрыкнуў,—
Здалося мне: рамка — труною раскрытай...
Пабрыў сам не свой,
белы свет праклінаючы,
Мой дружа харошы, Алег Мікалаевіч!



Дзе рос ты?
Маліўся якім небасхілам?
Якія гады цябе сілай паілі?
Ты сынам быў
тлумнай заводскай ускраіны,
Ускраіны той,
што з сабакамі, з крамамі,
Застаўленай густа пакуль што не кранамі,—
Маршчыністым тынам,
дамкамі, баракамі,
Дзе рада была дзетвара абаранку.
Дзе гразь і балота
штодня пад халупамі
Уздыхала і ўлетку ды роспачна хлюпала.
На вуліцы жыў ты героя Даватара.
Малы, ты не слыў
між сяброў завадатарам.
Быў ціхі,
натуры не меў забіяцкае.
Адно, калі колы за хатаю бацькавай
Па рэйках,
нібыта кувалдамі бухалі,—
Здавалася, мог ты,
схапіўшы за буферы,
Спыніць і цягнік,
што на поўным разгоне
Валок кіламетр мурзатых вагонаў,
Што, быццам пабраўшыся
моцна за рукі,
Ішлі, глуха валячы з насыпу грукат.
Праводзіў іх доўга,
пад грушаю лежачы,
Для бацькі — Алежка,
для маці — Алежачка!



Ты ростам, мой дружа,
не надта каб выйшаў.
Быў добраму дзядзьку па грудзі, не вышай.
Ды вісусам ты не зайздросціў і крышку.
Рост трэба хіба што для нафтавай вышкі!..
Затое — ў плячах!..
Іх надоўга запомнілі
Спачатку Еўропа,
пасля і Японія.
Лажыў на лапаткі ты Рым,
клаў і Токіо.
Раўлі стадыёны,
бы трэсла іх токам.
І прывіды-цені былых гладыятараў
У далоні наводмаш лупілі раз'ятрана.
Душой элегічны,
сабой элегантны,
Лажыў ты лагічна і нават галантна.
І мала таго,
дык яшчэ і з прыціркаю
Лажыў на лапаткі
любога праціўніка.
Ты мог бы адужаць любога гіганта,
Адкуль бы ні быў ён —
ці з Тэмзы, ці з Ганга.
І гул, што ішоў
аж да прадзеда-Скідэля,
З суддзёю руку тваю ўгору ускідвалі.
Бамбізы ад прэсы,
бізоны ад тэле
Таўкліся, круціліся,
як на патэльні.
Здымалі ў анфас
і лавілі у профіль.

І кожны у справе сваёй
быў не промах.
Такі на ляту здыме нават і кулю,
Залезе ў драпежную пашчу акулы
І здыме, калі будзе трэба,
й вантробы,
Фатограф,
ад бізнеса д'ябла вандроўны.
Ты думаў:
грыбоў дома — неруш ля неруша!
Цябе ж валаклі да якойсь мільянершы.
І тая з бульдогам —
адкормленай клячай —
Аўтограф з усмешкай завучанай клянчыла.
Навокал грымела,
гуло, як на торгу.
Брыво тваё цік
неяк здрадліва торгаў.
Гулі кінакамеры,
ўзбліскваліі бліцы,—
У самы раз потам халодным абліцца.
Вачамі тутэйшыя гейшы-гетэры
Стралялі панадна ў метро і ў гатэлі.
І слава, і зайздрасць
услед кіравалі,
Алег Мікалаевіч
Караваеў!

*

Хоць слава смалой
прыставала і ліпла,
Як трызніў ты роднай бярозай
і ліпай!
Хадой лесаруба
сыходзіў з Алімпа.

І — ў лазню!
Дзе пекла з бярозавым венікам.
А там на палок,
як да бога сівенькага!
А пара, што ўдушлівей, можа,
ад смога,
Як здань, што падобна
да васьмінога,
Нібы па загаду
ці выкліку мага,
Ірвалася грозна,
як з кратэра магма.
У гневе шалёным
зацята й картава
Гула і рыкала,
раўла і кракатала,
Аж чутна было
за чатыры кварталы.
Хадзіла, круцілася
з енкам і лямантам,
Не горш, чым дэбаты
ў замежных парламентах...
Змагаўся ты з ёю,
пякельнай і душнаю,
Нібыта ў змаганні знаходзіў
аддушыну,
Аж глухнуў, нібыта абкладзены
ватаю,—
На справе шукаў ты
працiўніка вартага.
Каб ім па-сапраўднаму
сілай памерацца.
У Амерыцы?
Што ж, калі ласка, Амерыка!
Канада,
дзе пішуцца з снегу аповесці?

Няхай і Канада!
А трэба — на полюсе!
Дзе лёд ды цюлені
з сваімі навінамі...
Алег Мікалаевіч —
дзіце нявіннае.

*

...Працаўнік, як джын той,
што выйшаў з бутылі,
Куды ён страшней быў
ад гневу Батыя.
Мацней за дванаццацізяпага змея
Таго, што жыве
у сырым падзямеллі,—
Разгневай —
ён косці патрушчыць і змеле.
Драпежнік,
і жыў ён драпежным разбоем.
Ён голымі ўсіх пакідаў
без разбору.
Дзяржаву такую,
як скажам, Манака,
З ног зваліць,
пасля адбярэ і манаткі.
Хоць ведаўся блізка,
дружыў з зазывааламі,
Уранні і ноччу
грымеў ён заваламі,
Употай страчаліся з ім
імператары.
Патрэбен ён быў дазарэзу
піратам.
Навыкаце вочы.
Глядзеў ён з прыціркаю.

Нашто ты раз'ятрыў
такога працаўніка,
Што жалю не меў,
ані жарту дасціпнага,—
Алег Мікалаевіч —
сціплы ад сціплага?..

*

Адзін на адзін,
бы з якім валацугам,
Хадзіў насцярожана
з ім ты па кругу.
То зблізку ўпрытык,
то аднекуль здалёку,
Той зыркаў нядобрым
цыклопавым вокам.
Заместа прасторнай
спартыўнае залы —
Чужыя двары
ды буфеты вакзала,
Падвал з пераборкай
фанернаю тонкай,
То цёмны катух,
дзе смуроду затокі.
Кватэра-нара,
гаспадыня у зморшчыках.
Балельшчыкі —
ўсе валацугі і змоўшчыкі.
Дружыннікі,
дворнікі
і гараджане,
Што брыдкім відовішчам
не пагарджалі.
Усялякія стрэчныя
ды папярэчныя,

Што ў лаянцы першынства
часам аспрэчвалі...
Цягнула цябе не у Рым
ці Швейцарыю,
А ў рэстараны
з тупымі швейцарамі...
Праціўнік,
то блізка,
то недзе далёка
Міргаў невыносна цыклопавым вокам.
Захват! І — кідок!
Ды патугі намарна.
Чамусьці свет бачыўся,
быццам праз марлю.
Праціўнік у рукі
зусім не даваўся,
Схапіць так, як трэба,
яго не ўдавалася.
Няўлоўны, як дым,
ён адно пасміхаўся.
З такім вось як след,
паспрабуй пазмагайся!
Сачыў за табою штохвілю нядрэмна.
Барэц быў адмалку
сабою нядрэнны.
Такога вось хітрага больш,
чым задужа,
Наўрад, а ці можна адужаць,
мой дружа?!

*

Хто скажа,
куды твае дзеліся трэнеры?
Дзе суддзі былі са свісткамі,
з іх трэлямі?

Каб строга судзілі,
на лаўку б адправілі,—
Змагаўся праціўнік
зусім не па правілах.
Чаму ж пазіралі
са стомай панылаю,
Чаму тую схватку
яны не спынілі?
Праціўнік —
ілгун, прайдзісвет і пралаза,
Ён быццам бы толькі
пакінуў прылазнік.
Сабою, як мамант,
няўклюдны, вялізны,
Ды быццам намылены
з рук ён выслізваў.
То раптам, як дрэва
у кульцях-абрубках,
Кідаў,—
ты падчас ачынаўся на бруку.
І мучыла горш, чымсьці смага,
пытанне:
Дружына балельшчыкаў дзе апантаная?
Чаму не ўзрываецца свістам,
авацыяй?
Не ведаў ты сам,
што з табой адбываецца.
Адно прад вачамі шалёна
й балюча
Кружыў, нібы прывід,
бліпчасты абручык.
Стагнаў ты,
да бруку грудзьмі прыпадаючы.
А бачыў сябе, як чужога, удалечы.
Боль рэзаў душу,
быццам воласам тонкім,—

Спяшаўся, здавалася, ты
з трэніроўкі.
То нібы вяртаўся
з вандроўкі далёкае,
Ці з тлумнага Рыма,
ці з душнага Токіо.
Працíўнік прывідны
ў калматай кучомцы,
Ён дух не даваў перавесці,
ачомацца.
Бо гнуў, прыціскаў
да памоста лапаткамі.
Глядзеў,
а пагляд быў цягучы, як патака.
Цягнуў ён паглядам душу,
бы вяровачкай,
Цягнуў і, здаецца,
усю выварочваў.
А ў зрэнках нястрымна да болю
і стоена
Абручык кружыў —
не даваў і астояцца.
Бялёсы туман —
паласатаю зебраю
Сланяўся над прорвай,
што жудасна зеўрала.
З душою,
адчаем і болем працятаю,
Злавесна цягнула,
бы ў пашчу уцягвала.
Здаецца, у ёй пухіры глуха лопалі.
Глядзела, ўзіралася
вокам цыклопавым.
І ты да яе ў тумане цёмна-рыжым
Спіной адступаў усё бліжай
і бліжай.

Апора знікала уміг пад нагою,
Зрываўся, нібы са скалы,
і другою.
Душу працінала і страхам,
і холадам.
І сэрца хадзіла
амаль як не ходырам.
Каб гэта магло ўсё
прысніцца, прычуцца!
Як добра было б нечакана прачнуцца!
Ды толькі адно
над глыбокаю кручай
Распаўся на звёны
блішчасты абручык.
І вольна і лёгка
грудзям тваім стала...
Ці чуў ты апошні
ускрык свой расстайны
Над прорвай нямой?..
Ні двара ні кала ёй,—
Мой дружа харошы, Алег Мікалаевіч?..

*

Зязюля кукуе.
Сасоннік гусцее.
Лепш бы ад кулі,
Чым у пасцелі.

Шэрага колеру
Тлустыя цені.
Лепш бы пад коламі,
Чым у пасцелі.

Драты дзесь высока
Застогнуць, бы з цемры.

Лепш бы ад току,
Чым у пасцелі.

Дзень, як абвараны.
Млявасць — па целе.
Лепш бы ў аварыі,
Чым у пасцелі.

Ціша над доламі,
Далеч гусцее.
Лепш бы у полымі,
Чым у пасцелі.

Яблыкі ранкам
Градам па сценах.
Лепш ад маланкі,
Чым у пасцелі.

На велагонцы,
Недзе на трасе,
Прама на сонцы,
Чым на матрацы.

Лепей сканаў бы
З хіжае ласкі
Пры выкананні
Сваіх абавязкаў.

Ці пры нападзе
Нейкім падступным,
Дзе і на пядзю
Ніхто не адступіць.

Таварышы з Рыгі,
Тбілісі і Глуска,
Лепш бы на рынгу,
Чымсьці з-за глупства!..

*

Быў целам жалезны,
душой, нібы з воску.
Чаму не паклікаў цябе я
у вёску?!
Там лета — вашчынай,
а дні, быццам соты.
І едуць падводамі
вечна турботы.
Якія там ліўні,
якая пагода!
І сонца за лес
не заходзіць паўгода!
Так жыта расце,
смокча сокі уладна,
Аж нема раве
пад карэннямі ляда!
Шалее бульбоўнік,
агрэст раскашуе,
І ранак спяшае
ў чырвонай кашулі.
Пагода такая,
як іскра ці порах.
Самлела павіслі
сады на падпорах.
І мёд, што празрысцей
ад спелага лёду,
Свіціцца адно навылёт
праз калоды.
Там роздум на лузе
ўсё лета пасецца.
Адтаяў душой бы,
а потым і сэрцам.
Дзе рэчка муштруе
у выгібах воды,

Ля долу касой падцінаў бы ты
водар.
І покуль удод штось з удодам малолі,
Напоўніцу дыхаў бы
хвойнай смалою.
Чаму ж не прыехаў?
Чаму? Ну чаму так?
Выпадак рагоча,
пацьвельвае чмутам.
Душу ён маю
кожны дзень дакарае.
Ды што дакарае!
Пячэ ды карае.
Знудзілася сэрца,
здаецца, аслабла,
Алег Мікалаевіч,
браце і сябра!

*

На сцежках сустрэчных,
на сцежках расстайных
Ты, кажуць, насіў
у грудзях сваіх тайну.
Цябе яна мучыла
золкім світаннем.
На волю ірвалася
птушкай драпежнай,
І дзюбаю біла з размаху,
як пешняй.
Знутры малаціла
адчайна і люта.
Штосілы ірвалася, кажуць,
да люду.
Не мог ты ёй даць
аніякае рады.

Ты мучыўся ёю
і сам быў не рады.
Якую ж насіў
ты страшэнную тайну?
Няўжо яна людзям
вядомай не стане?
Няўжо, як жывая,
прад намі не ўстане?
Бо, кажуць жа,
крыжам вісела на шыі,
Згінала уніз
і бязбожна душыла.
Маліліся цэрквы,
гулі і саборы.
Няўжо у зямлю
знёс яе ты з сабою?
Зямля ані выдасць,
бо мовы не мае.
Маўчыць яна з тайнай,
нібыта нямая.
Бяда варажыла —
цыганка старая,—
Куды цябе вывезе
лёсу крывая
Бо ўсё ж твая тайна —
не выдумкі ўбоства.
Страшней яна быццам была
ад забойства.
Каго і чаго?
Можа, нават самога
Сябе
ці ў душы сваёй нейкага бога?
Ці нейкай святыні,
якой ты пакляўся,
Пранесці праз век
без памаркі, без кляксы.

Няўжо гэта можна назваць
самагубствам?
А можа, гаданне —
звычайнае глупства?
За славай заўсёды —
то зайздрасць,
то плёткі,
Як хіжы гурган
за няхітрым падлёткам!..
Не веру ні кроплю
я ў нейкую тайну
Ні позняй пароюю,
ні часам світальным.
Бяда не схлусіла —
цыганка старая:
Мітнулася ўбок твайго лёсу крывая,
Алег Мікалаевіч Караваеў!

*

Цырозы і стрэсы,
неўрозы, інфаркты
Нас ставяць бязлітасна ўсіх
перад фактам.
Да мігу таго
нас і мучаць і няньчаць,
Дзе кончыцца ўсё катастрофай,
няйначай.
Хай полька ці твіст,
хай шалёная румба,—
Становіцца свет гэты ярасны
рубам.
Хтось шэпча у цемрадзі:
«Любы ды родны».
А побач стаіўся дзесь
жах вадародны.

Гатовы узняцца раз'ятраным
грыбам.
На д'ябла яму
Шастаковічы, Грыгі!
А мы — аптымісты,
глядзім мы харобра.
А лепш бы лячыць гэты свет
ад хваробы.
Той джын зацугляць,
што рвануўся з бутылі,
Што, пэўна ж, страшней
і за орды Батыя.
Нам — штраф
за праезд безбілетны ў трамваі.
А хто на плячах
паўпла́неты трымае?
Хто неба штурмуе,
хто нетры муштруе?
Няўжо раўнавагу
зямля не ўтрымае,
Алег
Мікалаевіч
Караваеў?



## ЗМЕСТ

**Макарэвіч В.**

М 15 Відушчы посах: Вершы, паэма.— Мн.: Маст. літ., 1987.—190 с.: іл.

Аб мужнасці савецкага народа ў гады вайны, яго маральнай стойкасці, веры ў перамогу над ворагам расказваюць балады і вершы зборніка. Апяваючы прыгажосць роднага краю, аўтар скіроўвае ўвагу на экалагічныя праблемы сучаснасці.

М $\frac{4702120200-018}{M302(05)-87}$ 57—87

**ББК 84Бел7**




Василий Степанович
МАКАРЕВИЧ

*ЗРЯЩИЙ ПОСОХ*
*Стихи, поэма*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар Хв. Д. Жычка*
*Мастак С. М. Пчаліцаў*
*Мастацкі рэдактар А. М. Малышава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Н. У. Доваль*

ІБ № 2638

Здадзена ў набор 08.08.86. Падп. да друку 05.12.86. АТ 05177. Фармат 70×90[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,02. Ум. фарб.-адб. 7,02. Ул.-выд. арк. 8,19. Тыраж 2100 экз. Зак. 2778. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.